«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 1 (209), студзень 2024 года

# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 1 (209) (студзень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus

## Змест





# У пошуках радасці, або ці патрэбна вера беларусам?



Алесь ГІБОК-ГІБКОЎСКІ



Фота traveling.by

Свя́ты заўсёды пакідаюць у нашым жыцці выразны след — след сапраўднай Радасці, дзеля якой, магчыма, мы і з'яўляемся на гэты Божы свет.

З найлепшых успамінаў майго дзяцінства ў мяне засталіся згадкі пра святы. Тыя прыгожыя вясковыя святы, якія яшчэ жылі ў нашых вёсках і вёсачках сваім паўнавартасным жыццём. Прычым не толькі галоўныя рэлігійныя: Каляды ці Вялікдзень.

Святы і стваралі згаданую Радасць жыцця…

Потым яна, гэтая Радасць, неяк адразу знікла… Як мне здаецца, менавіта маё пакаленне, дзяцінства і юнацтва якога прыпадала на канец 50-х—60-я гады мінулага стагоддзя, было апошнім, якое яшчэ заспела тую нязмушаную прыродную Радасць жыцця, што як эстафету стагоддзямі прымалі мы ад сваіх продкаў. Потым, калі лёс закінуў мяне, 15-гадовага хлапца, у вялікі гармідар сталіцы, я больш ніколі такога цудоўнага непаўторнага стану не адчуваў.

Хутчэй за ўсё перыяд нашага сталення прыпаў на час нейкай грандыёзнай цывілізацыйнай мяжы, за якой завяршаўся вельмі значны цыкл у жыцці нашага этнічнага арэала. А тое, што надыходзіла, было ўжо зусім новым, зусім іншым. Да нас уладна ўрывалася новая незнаёмая цывілізацыя, якая несла новыя адчуванні.

Чалавек радуецца жыццю, пакуль ёсць добры запас сілаў, энэргіі, а потым… Існуе, відаць, нейкі запас моцы і ў душы кожнага этнасу, назбіраны не адным пакаленнем. Доўгія стагоддзі гэты запас скрупулёзна памнажаецца і беражліва перадаецца нашчадкам. У нашым выпадку размова ідзе менавіта пра энергетычны прыродны запас. Але, відавочна, што тыя ці іншыя прыродныя і гістарычныя катаклізмы, што прыпадаюць на лёс розных пакаленняў, прымушалі той «залаты запас» расходваць. Думаю, што так здарылася і з нашым этнасам, якому калісьці «пашчасціла» апынуцца і пасяліцца на сталае жыццё між двума магутнымі цывілізацыйнымі сіламі. Пэўны час, пакуль тыя сілы «апераваліся», ішоў іх перыяд акліматызацыі і ўрастання ў ландшафт, усё было адносна цярпіма. Акурат тады ледзь не сенсацыйна ўзнялася на згаданым цывілізацыйным памежжы першая наша дзяржава — ВКЛ, хутка набрыняла сілай і нават нейкі час магло дыктаваць у пэўнай ступені свае правілы гульні. Але ў суседзяў быў значна большы фізічны патэнцыял і аператыўная прастора, так патрэбная для нагульвання «масы цела» — і вынік быў драматычна прадказальным.

Раней ці пазней апрыоры небяспечнае наша «санітарна-кардоннае» становішча мусіла даць свой адмоўны плён. Чужыя ідэалагемы, як небяспечныя вірусы, актыўна атакавалі наш этнічны арганізм, імкліва размнажаліся там і сталі паціху раз'ядаць ягоную душу знутры. Пакутлівы гэта быў стан, які доўжыўся некалькі стагоддзяў. Яго сляды і сёння яшчэ захаваліся ў нашай генетычнай памяці, таму і сёння яшчэ нам часам сняцца кашмары нашых продкаў. А вынік яго быў заканамерным. Што, да прыкладу, адбываецца з кавалкам жалеза, якое апынулася паміж двума вялізнымі і магутнымі магнітамі? Яго ўнутранная малекулярна-атамная структура падвяргаецца дэфармацыі, парушаецца яе баланс і ўрэшце кавалак той становіцца непрыдатным для добрага вырабу… Дык вось, згаданы «залаты» запас трываласці, які стагоддзямі не даваў нам загінуць, на мой погляд, практычна скончыўся акурат у 50-60 гады мінулага стагоддзя. Некалькі дзесяцігоддзяў пасля мы жылі па інэрцыі… Акурат тады сталі імкліва праяўляцца ўсемагчымыя рысы маральнага і нават фізічнага выраджэння цэлых сацыяльных груп нашага народа…

На першы погляд, у кожнага з нас ёсць выбар усялякіх спакусаў пазбегнуць. Але чалавек па сваёй сутнасці — істота цікаўная, чым усё інфернальнае цудоўна карыстаецца. Адсюль і згаданая небяспека, прычым небяспека не толькі для асобных людзей, але і для чалавечага грамадства ў цэлым.

Сёння, дзякуючы тэхналагічным дасягненням, зноў актыўна выйшла на сусветную духоўную авансцэну так званая «антысістэма». Аўтарства гэтага тэрміну належыць аднаму з самых цікавых навукоўцаў і філосафаў XX стагоддзя Льву Гумілёву. Калі паспрабаваць даць ёй простае вызначэнне, то гэта светапогляд, супрацьлеглы ўласна самому жыццю на Зямлі. Задача ягоных носьбітаў — разбурыць усё існае і адправіць яго ў небыццё. Зразумела, загінуўшы разам з ім і самім. У хрысціянстве такая сіла з даўніх часоў слушна носіць назву «нячыстай», і змаганне з ёй — галоўнае поле барацьбы гэтага рэлігійнага вучэння.

Яшчэ задоўга да хрысціянства адным са стаўпоў абароны ад наступу «антысістэмы» быў наш жыццёвы інстынкт самазахавання, які сілкаваўся якраз ад прыроднай Радасці жыцця. І што парадаксальна, заўсёды быў найгалоўнейшым саюзнікам хрысціянства ў гэтай барацьбе пасля яго з'яўлення. Пры тым, што рэлігія многія праявы згаданай Радасці адносіла да грахоў. Але барацьба з агульным магутным і небяспечным ворагам зрабіла гэтыя дзве вялікія сілы саюзнікамі…

Дык «што рабіць?». Найперш варта было б усім, хто жыве на гэтай зямлі, яшчэ раз успомніць пра свайго галоўнага саюзніка ў вечнай барацьбе з «антысістэмай» — царкву. Яна, адрозна ад многіх з нас, ніколі тую барацьбу не спыняла. Нават тады, калі на Беларусі дзейснаю заставалася толькі дзясятая частка ад усіх храмаў. А, значыць, і веру бацькоў і дзядоў, да якой сёння многія з нас усё ж пахінуліся, захоўвала… Нехта нагадае мне, што і царква сёння так ці інакш задзейнічана ў супрацьстаянні эліт. Не буду спрачацца… І ўнутры царквы няма маналітнасці. Што ж, і там служаць жывыя людзі, у якіх ёсць свае прыватныя погляды і прыхільнасці, як палітычныя, так і духоўныя. Але па сваім вышэйшым духоўным прызначэнні, у асобе сваіх самых сумленных, самых выбітных сыноў, царква проста абавязана выконваць сваю кансалідуючую функцыю. Прычым на ўсіх узроўнях. Найперш — як рэтранслятар сапраўднай веры.

А што ёсць сёння для нас больш важнае, чым вера? Што ёсць у нашым жыцці больш складанае, чым вера? Па сутнасці мы жывем менавіта так, як верым. Гэта яна, вера, актыўна фарміруе наш быт, звычкі і прымхі, нашыя ментальнасць і тэмперамент, нашыя традыцыі і законы… А значыць, і нашую дзяржаўнасць, і нашую будучыню. Мы, бадай, не ўсведамляем, да якой ступені ўвесь лад нашага жыцця прадвызначаны гэтай самай верай. Прычым нават тады, калі нам здаецца, што мы не верым ні ў Бога, ні ў чорта…

І што можна прапанаваць сёння ў нашым краі як альтэрнатыву хрысціянству, альтэрнатыву веры? Што можа нас рэальна кансалідаваць у духоўным плане перад тварам прагнай, бязлітаснай «антысістэмы»? Пішу не ў піку іншым рэлігіям, да якіх стаўлюся з вялікай павагай. Тут вельмі важна абазначыць кантэкст, а ў нас ён менавіта такі…

Перакананы, што калі мы ў рэальнасці зможам выканаць задачу духоўнай кансалідацыі, калі да нас вернецца сапраўдная вера, то беларусам больш не будзе пагражаць духоўная і фізічная анігіляцыя. Маючы пэўнасць у будучыні, мы здолеем ажывіць і тую нашую сапраўдную спаконвечную Радасць жыцця. А ці не так і ў лёсе канкрэтнага чалавека? Пэўнасць дае яму і сілы, і Радасць!

Не магу не паўтарыць тое, з чаго пачаў: а ці не для Радасці мы з'яўляемся на гэты свет?



Фота traveling.by

# Песні выгнання Тодара Лебяды

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

6 студзеня споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння Тодара Лебяды, паэта, драматурга, публіцыста, аднаго з самых пакутных беларускіх песняроў, вязня сталінскага ГУЛАГа, які прайшоў праз усе нягоды смутнага часу.

Тодар Лебяда — псеўданім Пятра Фёдаравіча Шырокава. Ён з ліку тых дванаццаці студэнтаў Мінскага педінстытута, якія былі арыштаваныя ў 1936 годзе па абвінавачванні ў буржуазным нацыяналізме. Яго блізкімі сябрамі, якія раздзялілі лёс выгнанніка, былі вядомыя паэты-эмігранты Масей Сяднёў і Уладзімір Клішэвіч.

Тодар Лебяда зведаў шмат пакутаў: сталінскія турмы і лагеры, жыццё ў акупаванай Беларусі, эміграцыю ў канцы вайны, невыносную тугу па Радзіме, якая стала адной з прычынаў вяртання ў Беларусь.

Тут яго зноў чакаў арышт і самы страшны прысуд — расстрэл...

Можна толькі здагадвацца, якія пакуты вынес паэт у той жахлівай камеры-адзіночцы для смертнікаў. «Часта мне здавалася, што са мною размаўляюць сваякі, якіх ужо не было на гэтым свеце. Ва ўяўленнях я бачыў іх. Відаць, вар'яцеў паціху...», — успамінаў ён.

Праз два тыдні смяротнае пакаранне было заменена на 25 гадоў зняволення. Зноў тое ж невыноснае пекла, праз якое прайшоў у трыццатых.



Тодар Лебяда

А на Радзіме, куды Тодар Лебяда вярнуўся толькі ў 1960-ым, ён не знайшоў прытулку з-за таго, што многае тут змянілася. І ў ягонай сям'і так-сама.

Апошнія гады пражыў на чужыне, на Разаншчыне, дзе і памёр у 1970 годзе, перанёсшы два інфаркты...

Самым значным дасягненнем творчасці Тодара Лебяды з'яўляюцца яго «Песні выгнання», што выйшлі ў Мінску ў 1944 годзе.

У 1991-ым іх перавыдала кааператыўнае таварыства «Адраджэнне» (наклад, праўда, на той час невялікі: усяго 500 асобнікаў).

Тодар Лебяда — адзін з тых Гусляроў, якому ўдалося выжыць ва ўмовах бальшавіцкага пекла з яго адмысловым сатанізмам, каб расказаць пра гэта.

Як многім творцам, паэту дадзена было прадказаць свой лёс, сваё шчасце вярнуцца з выгнання. Нібы прароцтва, гучаць радкі з верша-прысвячэння «Уладзіміру Хадыку»:

*Прыйдзе час, і хтосьці, мо' адзіны,*
*Застанецца ўсё такі гусляр!*
*Ён тады у сонечным прадвесні*
*Пойдзе ў край вясёлкавых дарог, —*
*Ён тады з выгнаньня нашы песні*
*Разьнясе па родных берагох.*

Паэт выжыў у той цемры таму, што ўмеў лётаць услед за сваімі думкамі, якім няма «Сібіру, суровае кары» ў «край вясёлкавых дарог», каб адагрэцца там душою, набрацца моцы. Хоць на нейкі час пазбавіцца пякельнай пакуты, пабываць на Радзіме: «Ляці ж, мая думка, ляці ж, мая радасць, на родны, далёкі курган».

Думкі, услед за якімі імкне герой, досыць розныя: аб родных загонах, аб маленькай дачушцы, аб ягоным каханні. Каханая становіцца ўсяго толькі рэхам уласнага ўспаміну...

Лірычны герой Тодара Лебяды пачынае адчуваць сябе ў «кагорце мерцвякоў», і гэта адчуванне ўвесь час узмацняецца, нягледзячы на моц духу паэта. Нават у адзін з самых лірычных вершаў «Развітанне з маленькай дачушкай» паэт уводзіць трагічны настрой, адчуванне смерці, калі вырастае пачуццё халоднага магільнага жаху:

*Я еду ў край*
*Такі, што ты й ня сьніла,*
*Дзе многа, многа*
*Страшных мерцьвякоў,*
*Дзе кожны дзень*
*Капаюцца магілы*
*Дзеля замучаных,*
*Зьняволеных бацькоў.*

Беларусь як «край вясёлкавых дарог» — гэта мроя паэта, якой (а ён тое добра ведаў) супрацьпастаўлены жорсткія рэаліі сталінскіх часоў.

У вершы «Цяжка, цяжка беларусу...» Тодар Лебяда перапрацоўвае фальклорны матыў — зварот да вольных птушак, дзікіх гусей, што лятуць на яго Радзіму. Узнікае вобраз забранага краю, дзе нішчацца спрадвечныя духоўныя скарбы, дзе пануюць чорныя сілы зла.

Жахлівая адзінота, бяспрытульнасць чалавека-выгнанца, адчай, безвыходнасць гучаць у «Лістах да сябра». «Сібірская глуш», «дзікі ўсход — людская дамавіна», «дзікая тайга» — такім бачыцца паэту край ягонага зняволення.

У гэтых вершах асабліва выразна вымалёўваецца характэрны беларускай паэзіі матыў «тут — там». Там — шырокі бэз у кветцені, тут — «пад кожнай шпалай... замучаны ў выгнаньні беларус», там — «шасьцяць калосьсем нівы», тут — «мёрзлая зямля».

Мысленне паэта ў выніку становіцца вельмі парадаксальным, калі святло і цемра ўяўляюць сабой адзіны непадзельны комплекс узаемазвязаных з'яў, дзе адбываецца рэзкае і імгненнае межаванне аптымізму і песімізму. З аднаго боку, нязгасная сіла веры ў «раньняе прадвесьне» Беларусі, з другога — разуменне рэальнага становішча на Радзіме, адсюль — шчымлівы адчай паэта.

Грамадзянская асабістасць Тодара Лебяды нібы становіцца ў апазіцыю да яго душы. І калі з аднаго боку мы бачым найвялікшую веру, дык з другога — абсалютны адчай:

*Дагару душою*
*Нават на прадвесьні,*
*Бо укралі сэрца*
*Цесныя муры.*

*Дагару — завяну,*
*Не прапеўшы песьні,*
*Разгубляўшы песьні*
*Рана на зары.*

Але, насуперак усяму, да нас прыйшло адчайна-светлае паэтычнае слова Тодара Лебяды, прыйшло, як пасланне з таго жахлівага свету, дзе давялося пабываць паэту з сонечнай душой.

...У гады вайны Тодар Лебяда напісаў п'есу «Загубленае жыццё» (першы антыбальшавіцкі твор у беларускай драматургіі), якая мела поспех на сцэнах тэатраў у акупаванай Беларусі. Ягонае жыццё, як і жыццё героя, таксама было загубленым.

# Талент і мужнасць крытыка

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

Калі глядзець на ўнушальны шматтомнік «Беларускія пісьменнікі», паволі гартаць яго, учытваючыся ў велізарную бібліяграфію на кожнае прозвішча, не-не ды і скажаш сабе: вось жа, рабілі людзі літаратуру — планамерна, штодзённа і без выхадных.

Разам з тым, і прозвішчы літаратараў, складзеныя ў роўныя алфавітныя заканамернасці, штурхаюць да таго, каб спрацізь усё і сказаць: нічога вартага ў гэтай савецкай літаратуры не было — адны штампоўшчыкі, «паглынальнікі пустотаў», якімі і запоўненыя, пад выглядам мігатлівых спасылак, тамы даведнікаў.

Дзмітрый Якаўлевіч Бугаёў, чыё 95-годдзе адзначалася 12 студзеня, — сведка некалькіх эпох. Пасталеўшы ў сталіншчыне і вайне, ён перажыў надзеі «адлігі» і безнадзейнасць «застою», дэмакратычнаадраджэнскі час і апынуўся разам з усімі намі ў новым застойным перыядзе, які, трэба думаць, таксама не бясконцы.

Ва ўсе часы была ў яго магчымасць выбару, і тое, што сёлета мы гаворым пра Бугаёва з павагай і ўшаноўваем ягоную спадчыну, сведчыць пра слушнасць таго выбару, які рабіўся цягам застойна-надзейнай «цераспалосіцы» і які, урэшце, дапамог апраўдацца і пасляваеннаму беларускаму літаратуразнаўству і крытыцы.

Якое б тысячагоддзе не стаяла за вакном, Дзмітрый Бугаёў рабіў стаўку на шчырую працу, даследаванне лепшага ў бягучым літпрацэсе і актуалізацыю спадчыны. Сёння, як гэта ні абсурдна, даволі лёгка можна ўявіць, якой смеласцю было — займацца ў 1950-я і 1960-я гады творчасцю пісьменнікаў даваенных пары, творчасцю былых палітзняволеных. Далёка не кожны літаратуразнаўца наважваўся на гэта: сталінскія кадры працягвалі працаваць і ў апараце кампартыі, і ў кіраўніцтве акадэмічнай навукай, ды і ў асяроддзі самога Саюза пісьменнікаў. Тым не менш, для Дзмітрыя Якаўлевіча, чый бацька ў 1936-м не вярнуўся пасля чарговага арышту, падобны выбар быў натуральны. Ён ведаў вартасць таго часу і не меў наконт яго ніякіх ілюзій.

Але ў адкрытую гаварыць праўду пра сталінскія зверствы ён не мог. Сёй-той сказаў бы сёння: дык навошта тады было ісці на кампрамісы, пісаць пра «асобныя недахопы», «пэўныя памылкі» і г.д.?

Можна адказаць з усёй пэўнасцю: таму што інакш гаварыць пра рэпрэсаваных пісьменнікаў было нельга. Так, абстрактна-апісальны стыль, агульныя словы, і ў той жа час — зерне біяграфічных дадзеных, аналіз твораў, ачышчэнне іх ад вульгарна-сацыялагічных наносаў і, у выніку, — выданне манаграфій і збораў твораў, пад афіцыйным акадэмічным грыфам, што імгненна, лепш за ўсякую даведку, рэабілітоўвала пісьменніка, уключала яго творчасць у фундаментальныя распрацоўкі, універсітэцкія праграмы і г.д.

Так, пакрысе паўставала новая, непрыгладжаная пастановамі ЦК карціна літаратуры.

Дзмітрый Бугаёў быў адным з тых падзвіжнікаў, якія паступова, год за годам, праводзілі рэабілітацыю літаратуры 1920-х гадоў, уключалі яе шматгранную палітру ў афіцыйную акадэмічную гісторыю літаратуры. Ягоныя манаграфіі пра Уладзіміра Дубоўку (1965) і Максіма Гарэцкага (1968) і сёння чытаюцца з цікавасцю.

Аналізуючы раннія апавяданні Міхася Лынькова (1963) і «Хто смяецца апошнім» Кандрата Крапівы (1971), прозу Барыса Мікуліча і Васіля Каваля (1959—1960), творчасць Платона Галавача (1973), Бугаёў перш за ўсё падкрэсліваў той нязломны пісьменніцкі характар, маральную прынцыповасць, якія, можа, не заўсёды і не ўсім нашым літаратарам былі ўласцівыя, аднак



Дзмітрый Бугаёў

для гісторыі (і гісторыі пісьменства ў тым ліку) надзвычай важныя.

Гэтая павага і ўвага да пісьменніка з магутным унутраным стрыжнем арганічна прывялі Дзмітрыя Бугаёва да аналізу творчасці Івана Мележа і Васіля Быкава, якім крытык прысвяціў не адну кнігу і не адзін дзясятак артыкулаў.

Гаворачы пра гэта, нельга забываць, што падобны выбар, асабліва ў дачыненні Васіля Быкава, быў у 1960-я гады для маладога дацэнта БДУ дужа небяспечным. Яшчэ нельга забываць, што функцыя і важкасць крытыкі ў той час была зусім інакшай, як цяпер: крытык мог паспрыяць выхаду кнігі, мог і наадварот — выштурхнуць яе разам з аўтарам на маргінэс літаратурнага жыцця.

Ад кніжнага ж ганарару многія пісьменнікі залежалі наўпрост, таму звязку гэтую пакінуць і абмінуць не маглі.

Добрая ці дрэнная крытыка, атрыманая кнігай, уплывала не на продажы і прэміі, як у заходніх краінах, а на агульную ацэнку кіраўнікоў выдавецтваў і, перш за ўсё, кантрольных органаў — ЦК партыі.

Дзмітрый Бугаёў некалькі дзесяцігоддзяў быў часткай гэтай сістэмы, і калі пагартаць ягоныя публікацыі 1960—1980-х гадоў, можна ўбачыць, што дапамагаў ён сапраўды таленавітым і вартым аўтарам: Генадзю Бураўкіну, Анатолю Вярцінскаму, Яўгеніі Янішчыц. Ягонае добрае слова не раз было супрацьвагай чарговаму пагромніцкаму артыкулу, у якім бэсціўся Васіль Быкаў.

Перабудова і гады незалежнасці адкрылі зусім іншага Бугаёва: бескампраміснага крытыка таталітарнай сістэмы, камуністычнай утопіі, абаронцу нацыянальнага праекту Беларусі. Адкінуўшы былыя забароны, па-новаму глянуў ён на прозу Васіля Быкава ў кнізе «Праўда і мужнасць таленту», па-новаму ацаніў беларускую і расійскую літаратуру пра калектывізацыю.

Крытычны погляд Бугаёва часта быў скіраваны не на паэтыку твора, а на адлюстраванне літаратурай жыцця. І наколькі вастрэйшай была праўда, выказаная пісьменнікам, наколькі меў ён адвагі называць рэчы сваімі імёнамі, настолькі быў ён Дзмітрыю Бугаёву цікавы.

Жыццё як найвышэйшая каштоўнасць — для ўсіх, не толькі для літаратара — і крутыя павароты гісторыі вабілі яго. Таму нездарма ў апошнія гады кнігі Дзмітрыя Бугаёва чытаеш як гістарычны дакумент, і нярэдка тую інфармацыю, якая ў іх змешчана, болей нідзе не знойдзеш — па той простай прычыне, што Бугаёў аказаўся адзіным сведкам і фіксатарам тых падзей і той фактуры.

«Цяпер увогуле лёгка крычаць, бо ўсё дазволена. І нічым не трэба рызыкаваць. А тады нам усім многае давалася з вялікімі пакутамі, кожная пераацэнка давалася з боем», — успамінаў у 1992 годзе Дзмітрый Бугаёў у адным з інтэрв'ю.

Успомнім пра гэта і мы ў дні 95-гадовага юбілею патрыярха нацыянальнай крытыкі, прафесара, лаўрэата...

Чалавека, чыя праўда перамагла.

# Кабак



Андрэй ФЕДАРЭНКА

— Ты не Кабак, ты — мярзляк, — казаў камандзір аддзялення сяржант Тыжных падначаленаму, радавому Кабаку. — Няўжо ў вас на радзіме так цёпла? Дзе ты жыў? На хутары? Што такое хутар? Хата? Што такое хата? Ізба? У лесе? Заімка? Ну вось, вырас у лесе, а мярзляк. Ніхто не мерзне — адзін ты.

— Чаму… адзін? — мармыча Кабак, хоць гэта праўда.

Усе навабранцы з іхняга ўзвода вучэбкі даўно асвойталіся, толькі ён, беларус з-пад Барысава, за тры месяцы службы — лістапад, снежань, студзень — ніяк не можа прывыкнуць да тутэйшай халадэчы, да мясцовай прыволжскай зімы з яе вятрамі, снягамі, завеямі, калючымі рускімі маразамі, — той самай, што некалі ў гэтых вось палях даканала армію Паўлюса. Кабак мерзне, як немец пад Сталінградам. Скурчаны, з уцiснутай у плечы галавой — адно, што ад холаду, а другое, яшчэ са школы саромеецца свайго кадыка, вялікага, з вострым, як дзюба, храстком. Асабліва храсток гэты выпінаецца, калі трэба задзіраць галаву пры камандзе «смірна». Яшчэ на гэтым храстку расце пук валасоў.

— Ты не Кабак — ты вядзьмак, — казаў яму на гэта Тыжных.

— Чаму… вядзьмак?..

— Валасы на кадыку толькі ў ведзьмакоў растуць. У ваўкалакаў, вампіраў… І прозвішча тваё чытаецца аднолькава ззаду наперад. У ведзьмакоў заўсёды так.

— Чаму… заўсёды? — па сваёй звычцы паўтарае, мармыча Кабак.

Ранішняе галенне асаблівая пакута для яго. Цэлая рота набіваецца ў адзін пакой. Справа рукамыйнікі, злева пісуары, далей — туалетныя кабіны, усярэдзіне з высокімі «пастаментамі» і з кароткімі, спецыяльна падрэзанымі знізу дзверцамі, каб чалавек, што прысеў па патрэбе, быў відаць увесь. Умывальнікаў мала, да іх чарга, трэба стаяць, чакаць. Салдаты голыя да пояса, у адных белых сподніках з матузкамі і ў тапках на босую нагу. Холад ад кафельнай падлогі лёгка прабівае тонкія падэшвы, ногі ледзяныя. Кабак асцярожна водзіць па храстку лязом. Вада халодная, як ні старайся, а ўсё адно колькі валаскоў прапусціш, так яны потым і тырчаць цэлы дзень, хоць вышчыквай іх пазногцямі. Ён з зайздрасцю паглядвае на сібірака Тыжных, якому тутэйшыя марозы смешныя, на яго мускулісты торс, на тое, з якім спрытам ён голіцца: без люстэрка, навобмацак, у адной руцэ змылачак, у другой — вастрэннае лязо. Некалькі спрактыкаваных рухаў: зверху ўніз, знізу ўверх, пад носам, чуецца толькі лёгкае патрэскванне — і вось чысценькі, гладкі, ружовы твар. Мабыць, калі б замест ляза далі яму шыла — пагаліўся б шылам. Усё займае ў яго некалькі хвілін.

— Дай, — прапаноўвае ён, бачачы, як Кабак выкручваецца целам, выварочвае руку, каб самому сабе падбрыць ззаду. — Бо на цябе глядзець страшна, аж скура гусінай робіцца… Ну і шыя, — дзівіцца ён. — Тонкая, доўгая, як у гусака. У вас гусі ёсць?

Кабак асцярожна, каб не цапнула па карку, круціць галавой — няма, якія гусі; у іх ні возера, ні рэчкі, толькі канава з жоўтай тарфяной вадою.

— Нічога, — суцяшае яго Тыжных, абдзьмухваючы лязо. — Затое на вайне табе будзе добра.

— Чаму… добра…

— Ведзьмакоў куля не бярэ. Забіць цябе можна толькі сярэбранай куляю, — задуменна кажа Тыжных. — У саменькі кадык. І потым абавязкова ўвагнаць у магілу асінавы кол.

Так ідуць дні, падобныя адзін на адзін, усе пад рэфрэн холаду. Стыла, сцюдзёна Кабаку паўсюль, нават у цёплых памяшканнях, такіх, як «ленпакой» ці вучэбныя класы, ці сталовая, не кажучы пра муштру на двары, заняткі на палігоне ці на пляцы ў час прыборкі снегу, якога кожную ноч навальвае столькі, што «Уралы» не паспяваюць вывозіць. Нават пасля адбою Кабак доўга варочаецца пад сваёй тоненькай коўдрай, падцягвае калені да барады, лягае то на жывот, то на спіну, то грэе ногі рукамі. Раней яго пасцель была на ніжнім ярусе — ад падлогі знізу праз матрац дзьмула, памяняўся на верхні — ад вакна цягне. Жоўты месяц, поўны, вялізны, пазірае ў казарму, і ўсё роўна яму, што сон чалавечы такі кароткі, праляціць імгненна, і раніцай зноў тое ж: пад'ём, галенне-пастраенне, зарадка, сняданак, муштра, абед, прыборка снегу… Яшчэ адзін доўгі, халодны дзень!

Быў, праўда, кавалачак сутак, адразу пасля вячэры — законныя паўтары гадзіны вольнага часу, любімы, чаканы перыяд, калі Кабака крыху адпускала. Тады ён бег у «ленпакой» і прытуляўся да батарэі, як да грубкі. Іншыя глядзелі тэлевізар, гулялі ў шашкі-шахматы, пісалі пісьмы, падшывалі каўнерыкі. Бялелі споднім заходнія і ўсходнія ўкраінцы, два грузіны, тры каракалпакі, узбек з Ташкента; ротны старшына разам з падначаленымі таксама ўвішна працаваў іголкаю. Худы, пацёрты жыццём, заўчасна ссівелы ад алкаголю і няўдач на жыццёвым фронце (трэцяя жонка яго нядаўна кінула). Казахскі немец Андрэй Фішар, рыжы, прышчаваты, як падлетак пераходнага ўзросту, расказваў пра змяю:

— Ніколі такіх не бачыў: сама чорная, а галава вялікая, белая, круглая. Здалёк падумалі, што вялізны грыб-дажджавік. Падышлі бліжэй, а яна падняла галаву над травою, шыпіць, палохае!.. Мы хутчэй камення ў рукі… Ох, і ўцякала яна! Ох, і выкручвалася! Ратавалася так… Ды дзе там уцячэш — стэп!

З тэлевізара маладая Ратару, ціснучы да грудзей рукі, горача, надрыўна заклікае:

*Приезжайте в Прикарпаття,*
*Приезжайте, люди добрі,*
*Завжди будуть раді вам!*
*Хлібом-сіллю вас зустрінуть,*
*Файну пісню заспівають,*
*В шану нашим світлим дням!*

Старшына бакавымі зубамі адкусвае нітку, адводзіць руку з гімнасцёркай, любуючыся сваёй працай і белатой падкаўнерыка. Нацягвае гімнасцёрку.

— І што гадзюка? — пытае ён у Фішара.

— Забілі, — абыякава адказвае той.

— І! У синю даль! — ірве ў тэлевізары душу ўкраінская малдаванка. — По-над горами лине пісня ця! Про! Чудовий край!..

Украінец Стэпан, смугла-чарнявенькі, гарбаносы, з выпуклымі паўднёвымі вачамі, падобны на ліцэіста Пушкіна, калі таго падстрыгчы пад нуль і апрануць у форму СА, ціха падпявае:

— Прыязджайце ў Закарпацця — там вас стрінуць кулямлёты…

— Гэта праўда, — пацвярджвае старшына і пачынае расказваць, як «купцом» вёз навабранцаў, у Маскве патрапілі ў завіруху, цягнікі не хадзяць, двое сутак на Яраслаўскім вакзале, людзі, тлум, цяснота, прыбіральні не працуюць, скразнякі, паёк скончыўся…

— І вось то тут, то там вырастаюць нейкія аратары, бунтаўшчыкі, маўляў, колькі можна? за што ваявалі? А цяпер уявіце, што не завіруха, а эканамічны збой. Гэта ж жах, што пачнецца. Вайны не трэба.

Кабак грэе то рукі, то плячамі туліцца да батарэі. Вось так бы сядзець у адносным цяпле, адноснай утульнасці, слухаць старшыну і песню пра «чарівны край», марыць пра свой хутар, дзе і мароз не мароз, і снег цёплы, а каля грубкі адагрэўся б за 5 хвілін. Нехта тармусіць яго за плячо.

— На, — сяржант Тыжных працягнуў яму жоўтую круглую бляшаначку памерам з хакейную шайбу. — Гусіны тлушч. Сібірскі. Знарок для цябе выпісаў, сёння пасылка прыйшла. Будзеш патрошку мазаць твар, рукі. Ды беражы, тонкім слоем, як вазелін, накладвай. Ніякі мароз не возьме. Бо з такімі тэмпамі ты да вясны не дацягнеш.

— Чаму… не дацягну, — замест «дзякую» мармыча Кабак. Ён круціць у руках, разглядвае бляшаначку.

— Вось проста цяпер змажся.

Кабак пайшоў да ложка. Адкрыў бляшаначку — поўная, тлушч густы, белы, і праўда, падобны на вазелін. Прыемна пахне дымком, дзічынаю, і яшчэ — свежым здорам. Кабак ашчадна, самым кончыкам пальца, намазаў лоб, шчокі, рукі, не паленаваўся скінуць боты і ногі таксама намазаў. І раптам упершыню за тры месяцы ў ім нібы нешта пачало адтайваць, адлягаць; нават як бы яму ўжо цяпер стала цяплей: ці то так імгненна падзейнічаў чароўны тлушч, ці ад нечага іншага.

А тым часам:

— Рота, строіцца! — і зноў на вуліцу, на мароз і завіруху, памаршыраваць перад сном.

Кабак кожную хвіліну прыслухоўваўся да сябе, да свайго цела, і з радасным здзіўленнем адчуваў — ну, не холадна больш. Не адчувае холаду! І як гэта, аказваецца, здорава — не мерзнуць!

Пасля вячэрняй паверкі-пераклічкі і адбою, ужо на ложку, ён таксама прыслухоўваўся да сябе. Месяц заглядваў у казарму. Кабак усміхнуўся яму, як старому знаёмаму, і падміргнуў: маўляў, а мне ўжо не холадна! Круглая жоўтая бляшаначка ляжала пад падушкай. Кабак пагладзіў яе, адкрыў, не ўтрымаўся і лізнуў. Смачна. Расслабілася цела, солодка закружыла ў галаве, і паплыў, паплыў ложак у родны хутар… Сніцца Кабаку лес, зіма, снег, які, калі ўзяць яго ў пальцы, аказваецца цёплым гусіным мяккім пухам. Яшчэ сніцца бляшаначка, поўная бліскучых, як ртуць, прыгожых сярэбраных куляў. «Чаму кулі, калі там тлушч?» — праз дрымоту паспявае здзівіцца Кабак, а ўжо крычаць ашалелыя галасы:

— Першая рота, пад'ём!

— Другая рота — пад'ём!

— Баявая трывога!

Гупат ад саскоквання з верхніх ярусаў, заплечнікі, бразгат алюмініевых кубкаў, біклажак, лыжак і спражак рамянёў, якія зашчэпліваліся на бягу, каб хутчэй патрапіць у «зброевую», схапіць аўтамат, штык-нож, шынель з шапкай — і на двор. Толькі чуўся тупат ног па металічнай лесвіцы. Пляц хутка запаўняўся нявыспанымі людзьмі. Кабак апускаў вушы ў шапцы, калі яго штурхнулі ў спіну.

— Чый штык-нож? — даўно крычыць старшына, падняўшы руку са штыком у чахле.

— Мой…

— Твой?! Я табе пакажу «твой»! Ты ў мяне да канца вучэбкі з кухні не вылезеш! Тры… пяць нарадаў!

— Чаму… пяць? — перапытвае Кабак замест таго, каб адказаць: «Ёсць пяць нарадаў».

Ноч. Зоры, якія то закрываюцца начнымі аблокамі, то зноў выплываюць, і над усім — вялікі, жоўты, як спелая рэпа, месяц. Салдаты ў шарэнзе хукаюць на рукі, прытупваюць нагамі. Вецер носіць снег і шэпат: «У Афганістан…».

— Афганістан, — пачало перадавацца па шарэнзе.

— Вось там і пагрэемся…

Кабак, як усе, пераступае нагамі, плячыма пацепвае, удыхае і выдыхае марозную пару. А сам усё прыслухоўваецца да сябе, да рук, ног, шчок. Халаднавата, канечне. Не май месяц. Зімна, сіверна. Але цярпіма! Не холадна! Зусім не тое, што было. І лёгка яму ад гэтага, нават радасна на душы. «Нічога, — думае ён. — Можа, яшчэ і не заб'юць там, у Афганістане. Сярэбраных куль няма ж у іх».

Зоры пакрысе бляклі. У тым баку, дзе горад, свяцілася. Вось-вось адтуль павінна было падняцца і пырскнуць сляпучачырвонымі халоднымі промнямі сонца.

Адбой прагучаў у сем раніцы, калі па шарэнгах замест «Афганістана» даўно гуляла іншае слова на «А»: «Андропаў!» — «Андропаў!». Генсек Андропаў памёр. У камандзіраў на тварах аднолькавы выраз — палёгкі, вось калі хочацца радавацца, а трэба паказваць засмучонасць, і ад таго ўсе яны былі добрыя, нават як бы ў нечым вінаватыя. У казарме старшына, наткнуўшыся на Кабака, не згадаў ні пра штык, ні пра нарады. Ад гэтага Кабаку яшчэ больш пацяплела.

Пасля сняданку здарыўся прыемны сюрпрыз: замест муштры іх сабралі ў «ленпакоі», смуткаваць. Тыжных падышоў да Кабака.

— Ну што? Памог тлушч? На салдата стаў падобны. Малайчына, герой. Што б ты рабіў без мяне? Прапаў бы!

— Чаму… прапаў бы? — па інерцыі перапытвае Кабак.

— Ты ж глядзі, каб хапіла. Расцягвай да канца зімы.

Кабак ківае. Патаптаўшыся, пабачыўшы, што нікому не патрэбен, ён выходзіць з «ленпакоя», ідзе да ложка, выцягвае з-пад падушкі бляшаначку, прысядае каля тумбачкі. Азірнуўшыся, дастае з кішэні дзве скібкі чорнага хлеба, прыхопленыя ў сталоўцы, пальцам намазвае адну скібку, зверху накрывае другой. Бляшаначку па-гаспадарску хавае назад. Затым, гледзячы ў радыёпрыёмнік на сцяне, няспешна пачынае есці. З радыёпрыёмніка гучыць урачыста-трагічны голас: «Весь советский народ, как всё прогрессивное человечество, с глубоким прискорбием…».

Кабак слухае, есць; сківіцы яго марудна варушацца, ходзіць туды-сюды востры кадык з пучком валасоў на канцы. У прымружаных вачах — асалода.



Фота oper.ru

***17 снежня Андрэй ФЕДАРЭНКА адзначыў сваё 60-годдзе. Шчыра жадаем нашаму аўтару радасці і натхнёнасці!***

# Пачатак руху



Лена ШАЛАМІЦКАЯ

### Верш, напісаны пад паўночным зззяннем у Горадні

*Моўчкі знічкі лаўлю,*
*іх цяплом свой сусвет саграваю*
*І амаль што лунаю сама*
*ў неаб'дымнай прасторы*
*Па-над садам з трох яблынь,*
*над верасам дзікага краю,*
*Дзе чакае, дагэтуль чакае*
*паўночнае мора.*

*Абдымай мяне хвалямі,*
*лапамі вежаў сасновых,*
*Супакой мяне зёлкавым шолахам,*
*зыркім світаннем!*
*Як імя мне сваё вымаўляць —*
*навучы, калі ласка, нанова!*
*...Вецер ціха абгортвае зоркі*
*празрыстым маўчаннем...*

***

*У гарадзенскіх камяніцах*
*Мне нешта сніцца,*
*сніцца,*
*сніцца...*

### Швы

*Гэты горад... Зацягвае ўглыб.*
*Гэты горад — кранае за сэрца...*
*Рэбры — з цэглы яго вуглы.*
*І ад іх... Не, нікуды не дзецца...*

*Выцякае з маёй душы*
*Тонкай ніткай Гарадніччанка —*
*І стварае дзівосныя швы:*
*Крыжаванку тваёй вышыванкі.*

### МАРА-ГОРАДні

*Ёсць у светлага горада*
*ціхая мара,*
*Што ўваскрэсне, адновіцца,*
*што ажыве*
*Зноў на плошчы*
*вялікая князева Фара —*
*Будзе Неба ўсміхацца*
*касцёлу-царкве...*

*Ма́е стаць пакаянне*
*духоўнаю ежай —*
*Будзе Неба ласкава*
*ўсміхацца і нам.*
*Хай узвысяцца сэрцы*
*з той веаіраю вежай*
*І гатычнаю казкаю*
*вернецца храм!*

### Начное 1.0

*Зіхаціць неўміручымі марамі*
*Гэты сон мой пад назвай*
*«жыццё»,*
*Шэпча ноч нешта*
*зоркамі-фарамі...*
*Я сама для сябе — адкрыццё.*

*Пачакайце, я выкіну дзённікі:*
*Марнавала паперу дарма...*
*Лепш бы хмары закатвала*
*ў слоікі...*
*Лепш бы ўсё вырашала сама.*

### Начное 2.0

*Ціха знічкі ноч калыша,*
*Месяц плавае ў імгле.*
*Насалоджваюся цішай*
*З чорнай кавай на стале.*

*Насалоджваюся кнігай —*
*Неагучаным жыццём.*
*Думкі, думкі! Ціха, ціха!*
*Прачынайся, пачуццё!*

### Начное 3.0

*Што ж, пайду пап'ю кампоту*
*Са сваёю адзінотай,*
*Кавы — са сваёй журбой...*
*Ноч — мой час. Самой сабой*
*Можна быць...*
*Ад болю выць...*
*Хто пачуе — хай змаўчыць!*
*Ненаўмысна ж я такая,*
*Нікагусенькі не маю...*

*Я вазьму налью віна:*
*Ну і файна, што адна.*

### Шлях

*Дзе я, хто я і з кім*
*апынулася ў гэтым жыцці?*
*Што мне трэба стрываць,*
*а чаго — неабходна пазбыцца?*
*Толькі б годна і якасна*
*шлях гэты вузкі прайсці!*
*Пралунаць, як паветраны шар,*
*працячы, як крыніца...*

### Кастрычнік

*Перачытаю «на дарослы розум»*
*Усё, што «не далося»*
*мне калісьці,*
*Каб зразумець,*
*што позна і адносна...*
*Каб восенню пісаць*
*лісты да лісця...*

*Каб вырваць стогн з душы,*
*нарэшце,*
*І зоркаю на золку апынуцца...*
*Вось думкі-вершы.*
*Мніце. Рэжце.*
*Яны ж і так ад цяжару парвуцца...*

*І зноў спявае цішыня*
*ў люстэрку,*
*Дзе светлых мар пачатак*
*знік аднойчы.*
*Гараць у сінім полымі паперкі*
*З радкамі, што пісалі мае вочы...*

### Паводле эсэ «Адвечным шляхам» Ігната Абдзіраловіча (1921 г.)

*Усё перажыта, усё адкіпела...*
*Проста наперад*
*птушкаю белай*
*З дзюбаю моцнай,*
*з вольнай душою*
*З крыламі шпаркімі...*
*Проста сабою.*
*Шляхам адвечным,*
*шляхам сваім —*
*Так пераможам,*
*на гэтым стаім.*

***

*Мне рыфмы спакою ніколі,*
*бадай, не дадуць.*
*Я думаю вершамі.*
*Вось — за кавадлу цяжэй —*
*Ідуць па нейронах.*
*Чыгуннымі ботамі йдуць!*
*Астрогі мае —*
*амфібрахій,*
*анапест,*
*харэй.*

***

*Са смакам церпкае каліны*
*Няпросты лёс*
*За тонкай спінай*
*У невядомыя абшары*
*Я нёс і нёс,*
*Як носяць мары,*



Фота vgr.by

*А не цяжэнныя цагліны...*

*Я нёс цябе, мая краіна.*

### Па матывах біяграфіі Францa Савіча

*Не пішы ніколі вершаў.*

*І маіх не чытай.*

*Я — пакутнік-паэт не першы:*
*Мы да Госпада ў рай —*
*Без чаргі, без дагляду...*

*І маіх не чытай:*
*Я — за праўду.*

***

*Вось, адчуў штуршок —*
*Ад Самога Бога!*
*Крочак, крочак, крок —*
*Да Сябе Самога.*
*Да крыві, да духу,*
*Да жыцця асноў...*
*Крок — Пачатак Руху.*
*Крочак, крочак — зноў...*

### Я — дрэва

*Уцячы б мне адсюль, уцячы...*
*Ды ўраслі мае ногі карэннем.*
*— Пра благое —*
*забудзь і змаўчы, —*
*Раіць мне ціхім шэптам*
*сумленне.*

*Божы почырк —*
*у кожным здарэнні.*

### Сінонімы і антонімы

*Я ціха іду міма гэтых і тых:*
*Каму абыякава і бесцікаўна,*
*Каму хоць бы што,*
*каму хоць бы хны...*
*Якім усё роўна,*
*бясстрасна, няўцямна...*

*Глядзяць раўнадушна,*
*глядзяць бесклапотна,*
*Жывуць безудзельна,*
*жывуць бестурботна...*

*І я — паміж іх,*
*Такіх паўжывых...*
*Ніякіх — і гэтых, і тых.*
*Ні халадна ім і не горача ім —*
*Такім апатычным,*
*Бястварным такім...*

### Не такая вясна

*Гэтым разам буслы не вярнуліся,*
*Хоць магнітам цягнула дамоў,*
*Хоць сарваныя сэрцы імкнуліся*
*Да сакральных сваіх палёў...*

*Вы ляціце, ляціце, дужыя!*
*І шукайце, шукайце Шлях.*
*...Мы сустрэнем вас*
*з белымі ружамі.*
*А пакуль што —*
*за ўзмахам узмах...*

### Крокі

*Мой Божачка,*
*такі складаны час,*
*А Ты зямлю пакінуў*
*без прарокаў:*
*Ледзь-ледзь гарыць адзін,*
*другі ўжо згас...*
*Мы —*
*дзень*
*за*
*днём*
*марнуем*
*крок*
*за*
*крокам...*

*Ты адкажы, Магутны,*
*падкажы,*
*Святлом як стаць нам*
*для такога свету,*
*Які распяў Любоў*
*на тым крыжы*
*І ганарыцца злом сваім*
*дагэтуль?..*

### Сіндром ратавальніка

*Дайце мне новыя слёзы —*
*я выплачу мора,*
*Берагам стануць*
*самотнай душы камяні...*
*Як ратаваць вас,*
*героі вялікага гора?*
*Шляху не бачна. Але...*
*Я іду на агні.*

***

*Яна — такая іншая,*
*Такая эфемерная...*
*Нідзе ніяк не лішняя,*
*Адным нябёсам верная...*

***

*Нішто не проста так:*
*Ні песні, ні малітвы,*
*Ні людзі,*
*што сустрэліся ў дарозе,*
*Ні цар і ні жабрак,*
*Ні перамога ў бітве...*
*Ні словы,*
*што злажыліся не ў прозе...*

***

*Неба...*
*Яно недасяжна празрыстае...*
*Ні аблачынкі...*
*Дзівоснае, чыстае...*
*Неба шкляное, глыбокае,*
*сіняе,*
*І далягляд — маляваная лінія*
*Пэндзлем чароўным*
*На тонкай паперы...*
*Я закахалася ў неба без меры...*

*Неба — маяк маёй веры.*

***

*Колькі каштуе вечнасць?*
*А колькі — адзіны дзень?*
*Мы — гэта недарэчнасць,*
*Мы — гэта толькі цень.*

*Колькі было іх, дружа, —*
*Намі пражытых дзён?*
*Перамагалі сцюжу*
*І спёку, нібы праклён...*

*Гэта жыццё. Не меней.*
*Нельга адразу ў рай,*
*Хоць ты прастак,*
*хоць геній.*
*Цяжка? Ну і няхай!*

*Вечнасць — мая патрэба,*
*Пакуль мяне носіць глеба...*

***

*Хвоя — пахне і коле*
*На імгненне...*
*Як імкненне — да волі...*

***

*Ляцець бы з вятрамі*
*дадому, дадому...*
*Дзе шэпт берагоў*
*горнай рэчкі нястомнай,*
*У ціхае месца*
*з гаючым паветрам...*
*Але да свабоды —*
*мільён кіламетраў...*

# Рука



Аляксандр ЧАРНУХА

— Колькі разоў табе казаў: акуратна яго бяры! Адной рукой — пад калені, другой — пад галаву, і потым паціху даставай. А ты што нарабіў?! — Рыгорыч глядзеў на адарваную руку і не мог стрымаць эмоцыі. — Мы яе ўжо пяты раз прышываем, жывога месца няма!

— Рыгорыч, ну ён жа спарахнеў увесь. Сёння рука, а заўтра ўжо галава адваліцца, — Сашка дастаў з кішэні пачак, выцягнуў з яго зубамі цыгарэту і смачна зацягнуўся. Перад ім ляжаў Сцяпан Ільіч Лыка і глядзеў некуды ў шэрае восеньскае неба. Сцяпана Ільіча дзе-ніздзе паелі чэрві, гнілое мяса смярдзела горш, чым прыбіральня на аўтавакзале, а адарваная рука з пасінелымі пальцамі ляжала ля яго ў брудзе і вабіла галодных груздзеўскіх сабак.

— Яго яшчэ на дзесяць гадоў дакладна хопіць, калі нармальна карыстацца! Шуруй па ніткі, боўдзіла!

Рыгорыч нахіліўся і ўзяў з зямлі руку. Уважліва паглядзеў на яе, нібыта вывучаў механізм функцыянавання прылады, і злосна зірнуў на Сашку. Той кінуў недакурак у лужыну, скочыў на лісапед і паехаў у бок цэнтра.

Да ўрачыстага мерапрыемства заставалася шэсць гадзін. Сцяпан Ільіч мусіць выступаць там з важнай прамовай перад жыхарамі Груздзева — а ў яго няма правай рукі, якую адарваў гэты прыдурак Сашка, калі цягнуў Лыку з труны. Ладна каб упершыню… Добра ж ведае: з ім праводзілі адказныя людзі неабходны інструктаж, потым былі яшчэ практычныя заняткі, пасля — падпісаў паперы, якія перадалі ў вобласць. І тут — зноў цягне за руку.

Рыгорыч мацюкнуўся пра сябе і ўзяў рыдлёўку: трэба было прысыпаць труну, каб усё выглядала па-людску — быццам спіць сабе божы чалавек спакойна. Пакуль працаваў, вярнуўся Сашка з іголкай і ніткамі, увесь мокры — так гнаў на лісапедзе. Праз цяжкія ўздыхі дабег да Лыкі, схапіў руку і толькі хацеў ткнуць туды іголку, як Рыгорыч закрычаў:

— Я сам! Ідзі во могілкі рыдлёўкай падраўняй, каб прыгожа было!

Тады сеў проста на зямлю ля Лыкі і пачаў прышываць руку на тое месца, дзе яна мусіць быць у важнага чалавека.

Пры жыцці гэтая рука мела для Сцяпана Ільіча Лыкі стратэгічнае значэнне. Ён насіў у ёй партфель, падпісваў важныя паперы, ставіў штампы і трымаў лыжку. На ёй жа ў Лыкі быў пярсцёнак, што выдаваў у ім сур'ёзнага сямейнага чалавека — абаронцу традыцыйных каштоўнасцяў. Яшчэ гэтай рукой ён пляскаў аб левую, калі слухаў прамовы кіраўнікоў. Ціснуў ёй рукі дэлегатам уседзяржаўнага сходу. У маладосці пісаў паперы на суседзяў у камітэт. І, нарэшце, выхоўваў жонку і сыноў.

Без гэтай рукі Сцяпан Ільіч выглядаў пакрыўджаным. Ягоны выраз твару не змяніўся, але цяпер Рыгорычу падавалася, што гэта Лыка так крыўдуе на яго і Сашку. Маўляў, кожную хвіліну свайго жыцця думаў пра вас, ночы не спаў, каб капейчыну якую атрымалі і жыццё сваё спарадкавалі, а вы нават пра руку паклапаціцца не можаце. Таму стары сядзеў і акуратненькім шоўчыкам ладзіў тую руку на яе спрадвечнае месца.

Сашка прыбраў пясочак на могілках, паклаў рыдлёўку і соп над Рыгорычам. Той нарэшце адкусіў нітку зубамі і паволі паклаў руку на зямлю. Выглядала прыгожа. Тады яны сталі ўдваіх з Сашкам і глядзелі, як манументальна ляжыць Лыка і як сур'ёзна ён выглядае нават пасля фізічнай смерці.

— Цяпер давай ціхенька ўдваіх яго бяром — ты пад калені, я пад галаву — і нясем у машыну, — загадаў Рыгорыч, і яны з Сашкам паднялі чыноўніка з зямлі. Цяпер яго трэба везці да дзяўчат-грымёрак, у касцюмерную, і потым — на свята, бо людзі чакаюць прамову.

— Ты, Сашка, нармальны хлопец, — загаварыў у машыне Рыгорыч. — Галава ў цябе светлая, шмат чаго разумееш. Але не можаш адно зразумець: там добра, дзе нас няма. Тут наша зямля і нашы людзі. Жывем як можам і як умеем. І ніхто, акрамя гэтых людзей, для нас нічога не зробіць, бо яны пра нас думаюць. А больш ніхто.

Сашка сядзеў моўчкі і цяжка дыхаў. Ён Рыгорыча ведаў з дзяцінства і паважаў, бо чалавек гэта быў працавіты і дасведчаны: мог і хату пашаляваць, і грыбныя месцы ведаў, і ў палітыцы нешта разумеў. Таму спрачацца з ім хлопец не хацеў, бо яго момантам прыціскала да зямлі аўтарытэтам Рыгорыча, і тады Сашка проста ціхенька ляжаў і папіскваў ад цяжару аргументацыі. Але вось гэты рытуал па выкопванні Лыкі з зямлі Сашку катэгарычна не падабаўся. Чаму? Ён да канца не сфармуляваў, але калі коратка, то хай бы сабе спаў спакойна чалавек. Што, іншых няма? Ну дык ёсць жа: маладыя, адукаваныя, з пазіцыяй. Шмат вандравалі, шмат чаго бачылі. Але ў цэнтры ніхто не спадабаўся. Сказалі, што толькі Лыка талковы кіраўнік, і хай так і застаецца. І цяпер Сашка вымушаны браць рыдлёўку і прыводзіць Сцяпана Ільіча ў належны стан перад кожнай урачыстай прамовай.

Прыехалі ў выканкам. Там ужо звычайная мітусня. Наталля Іванаўна з ідэалогіі ад раніцы насілася па кабінетах і кантралюе, каб усе былі цвярозыя і пры справе. Яна яшчэ з акна заўважыла, што пад'язджае машына, і кінулася да яе, ажно па дарозе згубіла абцас.

— Леанід Рыгоравіч, што ў вас? Кіраўнік гатовы? — падбегла яна да аўтамабіля.

— У найлепшым выглядзе! — лаканічна адрапартаваў Рыгорыч.

— Добра, тады нясіце яго грымёрам, а касцюм я ўжо падрыхтавала, — загадала ідэолаг і зазірнула ў акно. — Божухна, як жа ён схуднеў. Можа, нават і касцюм будзе на яго завялікі.

Наталля Іванаўна на імгненне задумалася, але адразу прыняла стандартны выраз твару і пабегла назад у выканкам.

Сашка з Рыгорычам узялі Лыку і хуценька панеслі яго ў кабінет, каб ніхто з мінакоў не заўважыў кіраўніка ў такім уразлівым стане. Дзяўчаты з салона прыгажосці і камітэтчык ужо былі на месцы. Смяяліся і жартавалі пра сваё.

— О-о-о, а вось і наш прыгажун! — заўсміхаліся яны, калі ўбачылі перад сабой нябожчыка. — Ну што, можа, сёння зробім яму модную фрызуру? Ці вейкі гусцейшыя, бо гэтыя ўжо паабсыпаліся.

— Хопіць трындзець, часу мала, — адрэзаў Рыгорыч і пасадзіў Сцяпана Ільіча ў крэсла. Той сеў, нібы жывы, і важна глядзеў са свайго трона адначасова на дзяўчат, камітэтчыка і Рыгорыча з Сашкам. Суворы і нерухомы. Мудры і вечны. Дзяўчаты прыціхлі і пачалі паціху фарбаваць Лыку: колер яго твару паступова памяняўся з сіне-карычневага на брудна-ружовы, страшныя чорныя дзіркі замест вачэй упрыгожыліся пластыкавай імітацыяй, чэрап накрыўся элегантным парыком, вусны дзеўкі падфарбавалі памадай. Цяпер Сцяпан Ільіч выглядаў амаль як жывы. Можна было пасадзіць яго на важную нараду і даць у рукі аркуш паперы з асадкай — ніхто б і ніколі не здагадаўся пра адсутнасць жыцця ўнутры груздзеўскага чыноўніка. Толькі пахла. Але так пахне і ў міліцэйскім пастарунку. Ці ў камітэце. Нічога незвычайнага.




Фота viciebsk.com

Пакуль апраналі Лыку ў гарнітур, пачалося свята. На плошчы выступалі дэсантнікі: спачатку таўклі адзін аднаго на горкі яблык, потым скакалі праз вогнішча, пасля — спявалі патрыятычныя песні, абціраючы крывавую юшку з каменных твараў. Людзі пляскалі ў далоні і рэагавалі на такую праяву патрыятызму даволі пазітыўна. Горад існаваў у падобным фармаце раз на год, і гэтыя канцэрты давалі груздзяўчанам магчымасць зрабіць пераклічку і даведацца, хто жывы, а хто ўжо памёр.

Пакуль вядучы свята крычаў у мікрафон урачыстыя словы пра росквіт, стабільнасць і ворагаў на мяжы, Лыку ўтраіх — Рыгорыч, Сашка і Наталля Іванаўна — падвалаклі да сцэны. У той самы момант прыбегла Наташа з прыёмнай і сунула яму ў халодныя рукі факс, які толькі-толькі прыйшоў з цэнтра. Лыка раптам шырока расплюшчыў вочы і пайшоў сваёй хадой. Зачараваныя людзі глядзелі яму ўслед.

Сцяпан Ільіч павольна падышоў да мікрафона і пракашляўся, каб крыху распрацаваць гнілыя звязкі. Людзі сціхлі і цяпер уважліва глядзелі на важнага і суворага правадыра. Лыка ўзяў у левую руку факс і пачаў манатонна яго чытаць.

— Паважаныя груздзяўчане. У гэты няпросты час мы з вамі сабраліся на гэтым месцы, каб адсвяткаваць сваю незалежнасць. Незалежнасць не даецца так проста. У дзевяностыя яна ўвогуле валялася пад нагамі і ніхто не хацеў яе браць. А мы паднялі, адмылі, пачысцілі і выхавалі так, як умелі і маглі. І вось якая яна ў нас прыгожая цяпер, свая. Наша багацце…

Рыгорыч і Сашка з адкрытымі ратамі назіралі за гэтым цудам. Звычайна Лыку проста ставілі на сцэну і ўключалі фанаграму з запісаным яшчэ пры жыцці тэкстам: там былі стандартныя фразы пра стабільнасць рэгіёна, намалоты і план на пяцігодку, які не мяняўся. Але зараз Лыка гаварыў сам, пад уздзеяннем нейкай знешняй д'ябальскай сілы, якую ўдыхнуў у яго гэты таямнічы факс. Побач сталі Наталля Іванаўна і Наташа і глядзелі на Лыку закаханымі вачыма. А той працягваў.

— …я ведаю, шаноўныя груздзяўчане, што людзі вы шчырыя і гасцінныя. І калі сябрам, ветлівым людзям, патрэбна дапамога, вы заўсёды дапаможаце. Таму сёння, у гэтае свята, я папрашу вас падзяліцца тым, чым вы багатыя…

Свяціла восеньскае сонейка. Людзі ціха стаялі на плошчы і слухалі прамову Лыкі. Было неяк дзіўна: без планаў на пяцігодку, рост сярэдняга заробку, барацьбу з карупцыяй і нячэснымі падонкамі. На гэты раз чалавек у касцюме казаў нешта зусім іншае, але сэнс гэтай прамовы груздзяўчане пакуль яшчэ не зразумелі.

— …такім чынам, я прапаную прагаласаваць апладысментамі, шаноўныя груздзяўчане, — працягваў Лыка. — Калі вы катэгарычна «за» дапамогу, пляскайце ў далоні.

Людзі запляскалі, бо нічога дрэннага ў гэтым быццам бы няма. Заўсёды пляскалі: на канцэртах, мітынгах, урачыстых шэсцях і калі дзеці атрымлівалі школьны дыплом.

— …калі вы катэгарычна супраць, не пляскайце ў далоні, — сказаў Лыка.

Людзі стаялі моўчкі і не ведалі, што ім рабіць.

— Аднагалосна, — скончыў Лыка. — Будзем дапамагаць, народ просіць.

Загучала патрыятычная музыка. Людзі зноў запляскалі ў далоні. Рыгорыч і Сашка стаялі за сцэнай і назіралі за Лыкам. Той стаяў нерухома і глядзеў перад сабой. Людзі назіралі за правадыром. Раптам яго правая рука затрэслася ў нярвовай канвульсіі і пайшла ўверх. Рыгорыч даў па вуху Сашку. Той шмаргануў носам і апусціў галаву. Перад імі стаяў на сцэне мёртвы чалавек і цягнуў сваю руку насустрач апошняму восеньскаму сонейку.

# Рэпартаж з таго свету

## Неверагодны аповед



Дзмітрый ПАДБЯРЭЗСКІ

— Алесь! — сказаў Асташэвіч, калі факсавы апарат перастаў вуркатаць. — Альбо гэта сапраўды на мяне пятніца ўплывае, альбо я крануўся розумам. Зірні, зноў тое ж самае, як прывід нейкі! Мне здаецца, што ўсё гэта я раней недзе ўжо чытаў.

— А-а, — здагадаўся Алесь і салодка пацягнуўся ў крэсле. — Міраж. Галюцынацыя. Гэта часам здараецца. І ведаеш, чаму? Ты, стары, за сваё жыццё столькі сапсаваў паперы, што цяпер міжволі паўтараешся. Не заўважаеш, як пішаш па другім разе...

— Каб жа! — сумна ўсміхнуўся Асташэвіч. — Я не пра сябе. Ты лепш паслухай уважліва сам. Ну хоць бы гэта: «Гутарка дэпутата Кануплёва з выбарцамі прыгадала мне дыялог сытага і галоднага, калі адзін распісваў вартасці паштэту з салаўіных язычкоў, а другі ў той час думаў, дзе адшукаць грошы хоць бы на піражок з капустай, разумеючы пры гэтым, што ніхто яму тых грошай не дасць. Іх не пабольшае ў яго нават тады, калі Кануплёў зробіцца прэзідэнтам». Ну як табе гэта?

— Даволі хвацка! — сказаў ён. — Адчуваецца добрая школа. Такое, думаю, спадабаецца нашым чытачам.

— Ды не пра тое я, не пра тое! Табе не здаецца, што гэтак ці амаль гэтак жа было ўжо некалі напісана? І нават друкавалася ў нашай жа газеце?

Асташэвіч адарваў новы кавалак факсавай стужкі.

— Алесь, гэта неверагодна! — закрычаў ён. — Рэж мяне на кавалкі, але клянуся чым заўгодна: я гэта ўжо бачыў і менавіта ў нашай газеце!

Ён падбег да Чорнага і падсунуў пад ягоны вялікі нос кавалак паперы. Алесь зняў акуляры.

— Дзе? — з недаверам спытаў ён.

— Так... Тут? «Кампанія напярэдадні выбараў — найбольш прыемны час для кожнага кандыдата. Для выбарцаў гэта пара спадзявання на лепшае, для кандыдатаў — дні раздачы абяцанняў, многія з якіх паглыне потым шэрая штодзённасць. Гэта час падрыхтоўкі да таямнічага пераўвасаблення, якое мне дужа нагадвае нявесту за тыдзень да шлюбнай ночы. Праўда, на гэтым падабенства дэпутата Кануплёва з цнатлівай дзяўчынай заканчваецца. Ягоны ўдзел — а даказаць гэта цяпер ужо няцяжка — у незаконным гандлі можа зрабіцца для яго фактам больш чым непрыемным...»

Алесь адсунуў ад сябе паперу.

— Г-м... Твая праўда, Мікола, — задуменна сказаў ён. — Такое ўражанне, быццам нехта прысмактаўся да матэрыялаў... Слухай... Цяпер мне ўдвая цікавей пабачыцца з Навінскім... Адшукай яго. Адшукай і прывядзі сюды.

— Згода! — адказаў Асташэвіч. — Дастаўлю як міленькага.

...Ноччу ён амаль не спаў. Думкі пра Андрэя Навінскага ўвесь час пераскоквалі да асобы Івана Маскалевіча, ягонага сябра, лепшага рэпарцёра не толькі за ўсю гісторыю «Народнага кур'ера», але, бадай, і ўсёй айчыннай журналістыкі. Тры гады як яго не было ўжо на гэтым свеце. Ягоныя рэпартажы лічыліся ўзорнымі, ён быў здольны прабрацца туды, дзе іншыя не знаходзілі і шчылінкі, ягоная метадычка «Як узяць інтэрв'ю ў трупа» была ў рэдакцыі настольнай кніжкай для ўсіх пачаткоўцаў.

За месяц да смерці Маскалевіч прагаварыўся Чорнаму, што стаіць на парозе фенаменальнага адкрыцця. Але Чорны не надаў гэтым словам аніякага значэння: знешні выгляд сябра турбаваў яго куды больш, чым нейкі там штучны інтэлект.

— Алесь, дружа! — сказаў тады Маскалевіч. — Пасля таго, што я атрымаў у лабараторыі, мой знешні выгляд мяне ніколькі не хвалюе. Павер мне: праз які год я з задавальненнем зашыюся разам з табой на цэлы тыдзень у які-небудзь утульны дамок на беразе возера, дзе нас будуць чакаць самыя прыгожыя і цёплыя жанчыны краіны. І яны не адпусцяць нас ад сябе ніколі!

Іван Маскалевіч любіў жартаваць. Але апошні жарт у яго зусім не атрымаўся. Гледзячы, як цагліны закрываюць у сцяне ўрну з прахам сябра, Чорны марыў пра тое, каб памерці гэтак жа лёгка: раптоўна і без лішніх клопатаў для сваякоў. Дзіўна, але ў тэстаменце, які пакінуў Маскалевіч, ні ён, Чорны, ні Мікола Асташэвіч нават не згадваліся...

Чорны з'явіўся ў рэдакцыі раней за ўсіх. На ягоным стале ўжо ляжалі копіі публікацыяў Навінскага. Яму хапіла і некалькіх хвілін, каб пераканацца: іх стыль, асаблівасці мовы, нават асобныя моўныя звароты былі напісаныя нібыта памерлым ужо Маскалевічам. Уражаны Чорны выскачыў з будынку і цэлы дзень бадзяўся па горадзе. І толькі пад вечар пазваніў у рэдакцыю. Наста паведаміла, што Навінскі будзе чакаць яго ў кавярні «Бібоп» роўна а дзясятай раніцы і што Асташэвіч просіць дазволу прысутнічаць на гэтай сустрэчы.

Чорны падзякаваў ёй і адразу ж заснуў, як гэта ён рабіў заўсёды напярэдадні складанага задання...

— Алесь! — гукнуў яго з глыбіні залі Асташэвіч, калі Чорны пераступіў парог кавярні. — Давай сюды.

Чорны прысеў за стол, зірнуў на гадзіннік і адпіў са шклянкі цёмны, густы чай.

— Яшчэ дзве хвіліны, — адзначыў Асташэвіч.

— Ты толькі не трымай мяне за рукі, — папярэдзіў Чорны. — Сам ведаеш, што такое для мяне Іван Маскалевіч. І я вельмі не люблю, калі яго нехта кранае бруднымі лапамі.

З-за стойкі лёгка ўзняўся высокі светлагаловы хлопец і наблізіўся да іх стала.

— Прывітанне, калегі! — сказаў ён. — Я — Андрэй Навінскі. Вы прасілі мяне аб сустрэчы.

— Мы павінны былі сустрэцца, Андрэй Навінскі, — сказаў Алесь Чорны. — Ты сам хіба разумееш, чаму.

— Безумоўна, — адказаў Навінскі і, не чакаючы дазволу, прысеў за стол. — Што будзем піць?

— Ты лепш раскажы пра сябе, — прапанаваў Чорны. — Нам карціць даведацца, адкуль ты такі ўзяўся. Ты ведаеш, хто такі Іван Маскалевіч?

— Я магу расказаць вам пра яго больш, чым ведаеш ты, Чорны, і ты, Асташэвіч, і ўсе людзі з «Народнага кур'ера» разам узятыя!

Чорны раптам усвядоміў, што яму падабаецца тое, як усміхаецца Навінскі. Падабалася яму і вытрымка, з якой ён вёў гутарку. Гэта казала не толькі пра смеласць, але і пра ўпэўненасць ва ўласных сілах.

— Зірніце, калі ласка, на гэтую запіску, — працягваў Навінскі.

Чорны адразу ж пазнаў почырк Маскалевіча, але змест запіскі яго вельмі здзівіў.

«Мае сябры! Я прашу вас рабіць усё, што скажа вам Андрэй. Верце яму, як вы верылі мне. Разумею: тое, што ён вам будзе расказваць, што ён вам пакажа, вас уразіць. Але я, як вы памятаеце, ніколі не абяцаў таго, чаго не мог зрабіць. Памятайце пра гэта і ідзіце за Андрэем. І тады мы з вамі ўбачымся зноў».

Чорны перадаў запіску Асташэвічу і спытаў:

— І што далей?

— У свой час мне захацелася праверыць адну тэорыю. А менавіта: ці можа адзін амаль нікому не вядомы рэпарцёр нагрэць усіх прафесіяналаў? Акцыя пад назвай «Навінскі супраць рэпарцёраў усяго свету», каб вы ведалі, пачалася ўжо. І вам у гэтай акцыі адведзеныя бадай што цэнтральныя ролі.

Чорны па-ранейшаму ўважліва ўглядаўся ў Навінскага, а Асташэвіч слухаў яго ўжо больш напружана, раз-пораз нервова ўсміхаючыся.

— Такім чынам, я прапанаваў усім рэдакцыям, што на працягу сутак буду бесперапынна весці сенсацыйны рэпартаж пра надзвычайнае адкрыццё, сведкамі якога зробяцца два рэпарцёры з «Народнага кур'ера»: Алесь Чорны і Мікола Асташэвіч. Я падпісаў кантракт з рэдакцыямі на агульную суму... Ну, пакуль няхай гэта будзе маёй маленькай таямніцай. Чаму яны пайшлі мне насустрач? Хто ж не хоча мець працэнты з фенаменальнага адкрыцця старога ліса Івана Маскалевіча?

— Дык значыць... — выдыхнуў Чорны і ўбачыў, як тэлеаператар імгненна перавёў на яго аб'ектыў камеры. — Значыць, Маскалевіч мне не зманіў? Ён сапраўды нешта вынайшаў?!

— А калі гэта, Чорны, Маскалевіч табе маніў? — перапыніў яго Навінскі і зарагатаў. — А табе, Асташэвіч? Проста ён умеў трымаць язык за зубамі.

— Каб Маскалевіч і нічога нам не сказаў, — не паверыў Асташэвіч.

— Мусіць, не паспеў, — растлумачыў Навінскі і гукнуў бармэна, які завіхаўся за стойкай. — Чалавек! Уключы тэлевізар!

— Якую праграму?

— Мяне завуць Андрэй Навінскі, запомні! І мне ўсё роўна, які канал ты ўключыш. Я — усюды! Рэпартаж працягваецца!

Успыхнуў экран тэлевізара. На ім Чорны і Асташэвіч убачылі кавярню, задаволены твар Навінскага, пачулі такі прыемны ягоны голас:

— Рэпартаж працягваецца, шаноўная публіка! Вось ужо адзінаццаць гадзін сем хвілін як я ў прамым эфіры, як мой рэпартаж аўтаматычна паступае ў рэдакцыі найбольш уплывовых газет і тыднёвікаў, і ўжо цяпер вы можаце набыць ранішнія выданні, каб пераканацца: Андрэй Навінскі трымае сваё слова. А як яго трымаеце вы? Дайце банк!

У кадры з'явіўся нейкі офіс. Камера пачала паволі наплываць на экран манітора так, што хутка можна было лёгка прачытаць імя і прозвішча, якія міргалі ў левым верхнім куце. Лічбы ўнізе бесперапынна мяняліся, і Чорны не адразу здолеў уцяміць, якую неверагодную суму яны паказваюць.

Чорны і Асташэвіч зрабіліся сведкамі бліскучага тэлерэпартажа, які мог бы зрабіць гонар кожнаму з вядучых супрацоўнікаў галоўных кампаній краіны. На працягу дзвюх гадзін, уліпнуўшы ў крэслы, яны нібы перагарнулі старонкі ўласнага жыцця, пачынаючы з дзяцінства, прыгадалі сваіх самых далёкіх сваякоў, лепшыя рэпартажы і артыкулы. Навінскі сыпаў прозвішчамі, назвамі, уключаў відэазапіс, па ягонай камандзе на студыі паказвалі фотаздымкі і газетныя палосы. Чорны хутка адчуў, што многія факты ўласнага жыцця ён ужо і не помніў, як не прыгадваў тыя матэрыялы, якія ў свой час зрабілі яму імя. Твары жанчын абуджалі ў ім прыемныя ўспаміны, постаці важных асоб — палітыкаў і спевакоў, фінансістаў і вайскоўцаў — прымушалі згадаць самыя неверагодныя прыгоды і падзеі з ягонай вірлівай рэпарцёрскай біяграфіі.

— Я, Андрэй Навінскі, працую ў жывым эфіры вось ужо трынаццаць гадзін дваццаць адну хвіліну! — без ценю стомленасці працягваў Навінскі. — Увага! Мы набліжаемся да ключавога моманту ў рэпартажы. Такім чынам, загадка рэпарцёра Івана Маскалевіча. Разгадка будзе пазней, а пакуль дайце відэазапіс!

Чорнаму і Асташэвічу ўжо нічога не заставалася, як моўчкі ўтаропіцца ў экран. Убачыўшы першыя кадры чарговага сюжэта, Алесь Чорны раптам адчуў, як па ягонай спіне прабеглі мурашы. Так, гэта быў той тройчы кляты дзень, калі ён і Асташэвіч страцілі свайго лепшага сябра. Сюжэт быў адзняты адмыслова. Імклівы «Датсун» шэрага колеру ляцеў па шашы. Яны бачылі вясёлы твар Івана Маскалевіча, які кіраваў машынай, спідометр, на якім раз-пораз успыхваў чырвоны перасцерагальны агеньчык. «Датсун» заходзіць у паварот, вішчаць колы, машыну кідае да броўкі, яна пачынае круціцца па асфальце. Буйны план: твар Маскалевіча, ахоплены панікай. Магутны выбух, вогненны шар, з якога вылятаюць рэшткі таго, што было некалі спартовай машынай. Мноства людзей, якія мітусяцца і спрабуюць утаймаваць раку полымя, паліцэйскі верталёт у небе. Двухпавярховы дом Маскалевіча, ад якога ад'язджае пахавальны картэж. Твары Чорнага, Асташэвіча. І зноў халодны голас Навінскага.

— Смерць вядомага рэпарцёра напэўна засталася б толькі адным з мільёнаў фактаў, што не змясціліся на старонках летапісу сусветнай гісторыі, калі б не сустрэча Маскалевіча з Чорным, якая адбылася за два дні да няшчаснага выпадку. Прашу відэазапіс.

Чорны ўбачыў пакой у доме Маскалевіча, дзе яны звычайна бавілі час за більярдам, убачыў Івана і сябе, пачуў голас сябра.

— Ты, Алесь, сапраўды не верыш таму, што я табе расказаў?

— Давай, Іван, яшчэ адну партыю. Мяне куды больш хвалюе тое, што ты зараз гуляў несур'ёзна.

— Шкада... Чым жа, скажы мне, я магу пераканаць цябе, Міколу ў тым, што штучны інтэлект — не фантастыка? Інтэлект, які можа цябе самога шмат у чым паўтарыць і нават пераўзысці? Што сапраўды можна зрабіць мадэль, здольную замяніць чалавека ў самых розных галінах ягонай дзейнасці? Як жа табе давесці магчымасць практычнага ўвасаблення канструкцыі...

— Іван, калі я ўбачу доказы тваёй тэорыі, я адсяку сабе правую руку, каб больш ніколі ў жыцці не брацца за пяро.

— Я запомню твае словы, Алесь! — неяк дзіўна зарагатаў Маскалевіч. — І згадаю іх табе значна хутчэй, чым ты думаеш...

На экране прамільгнула чарговая рэклама, камера паказала клерка ў банку, вакол якога завіхаліся санітары, шчыльны кардон паліцэйскіх ля будынка банка, і гледачам зноў ва ўвесь рот усміхнуўся Андрэй Навінскі.

— Я працягваю свой рэпартаж! Увага, прашу, калегі Алесь і Мікола, машына чакае нас!

Заканчэнне на стар. 7 »

# Рэпартаж з таго свету

## Неверагодны аповед

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6


Фота profguide.io

Чорны і Асташэвіч у суправаджэнні тэлеапаратара ўслед за Навінскім пасунуліся на вуліцу, але спыніліся адразу каля дзвярэй. На кавярню накатвалася чалавечае мора, якое ледзь стрымліваў ненадзейны ланцужок міліцыі.

— Я вітаю вас, мае сябры! — кінуў Навінскі ў натоўп.

Натоўп імгненна адгукнуўся шматтысячным равам, ускалыхнуўся і ўсёй сваёй масай накаціў на ачапленне. Чорнага адкінула да дзвярэй кавярні. Ён бачыў наўкол толькі вытарашчаныя вочы, разяўленыя пашчы, перакошаныя твары... І рукі — мноства рук, працягнутых невядома куды ў адзіным парыве, падтрыманым жахлівым стогнам: «Навінскі-і!..».

Навінскі выбіўся аднекуль збоку, схапіў Чорнага за руку і пацягнуў яго назад у кавярню.

— Хутчэй! — крыкнуў ён. — Праз чорны ход на вуліцу. Там чакае машына!

— А Мікола?! — Чорны учапіўся за рог сцяны. — Дзе ён?

— Халера з ім! Мне патрэбны ты! — Навінскі па-майстэрску ўдарыў Чорнага рабром далоні па руцэ і павалок яго праз залю.

Праз гадзіну, якая была запоўнена ў эфіры рэкламай, інтэрв'ю з вядомымі людзьмі, якія спявалі гімны Навінскаму, чарговымі паведамленнямі з банка, высвятленнем здарэння ля кавярні «Бібоп», уключылася камера, якая стаяла поруч з загарадным домам, дзе раней жыў Іван Маскалевіч. З машыны, якая пад'ехала да дома, выйшаў Андрэй Навінскі.

— Я — Андрэй Навінскі, шаноўная публіка! Мой рэпартаж скончыцца дакладна праз тры гадзіны трыццаць хвілін. Яшчэ праз суткі ў продажы з'явяцца дыскі з поўным запісам гэтага рэпартажу, а таксама кніга маіх артыкулаў з аўтографам для кожнага з тых, хто пералічыў на мой рахунак хоць бы адзін даляр. Запомніце назву гэтай кнігі: «Андрэй Навінскі супраць усяго свету». Менавіта яна зробіцца вашым лепшым сябрам і дарадцам на ўсё жыццё.І перш чым мы зробім з вамі экскурсію па доме Івана Маскалевіча і спынімся ў ягонай лабараторыі, паглядзіце, што адбываецца ў свеце. Прашу выпуск «Навін ад Навінскага»!

На экранах тэлевізараў усіх краін свету з'явіўся ўсхваляваны дыктар:

— Агенцтва Рэйтар перадае... што добраахвотна ўваходзіць у склад карпарацыі «Андрэй Суперньюс»... У невялікай дзяржаве Свамба адбыўся дзяржаўны пераварот. Да ўлады прыйшлі вайскоўцы. У звароце да народа хунта абвясціла, што яна цалкам падтрымлівае ідэі Андрэя Навінскага. Паведамленні з біржаў свету можна перадаць адным словам: паніка... Нарэшце, паведамленне з Масквы. З-пад хатняга арышту знік вядомы дзеяч савецкай апазіцыі Барыс Ельцын. Сляды ягонага маршруту вядуць у Свярдлоўскую рабочую рэспубліку. Для падтрымкі належнага парадку да граніцы рэспублікі скіраваны мабільныя батальёны камуністычнага спецназу з Беларусі...

Навінскі расштурхаў Чорнага і, узяўшы яго пад руку, павёў да дома ў суправаджэнні тэлеапаратара.

Чорны ўбачыў вялікі пакой, абстаўлены спецыяльным рыштункам. Вось тут ён не бываў аніколі. У далёкім цёмным куце стаялі доўгія празрыстыя скрыні, якія знешне нагадвалі труны.

Андрэй Навінскі загаварыў без перапынку:

— Шмат гадоў Іван Маскалевіч разрываўся паміж сваёй прафесіяй і хобі — стварэннем штучнага адпаведніка чалавечага розуму. І калі першы ягоны занятак прыносіў яму даволі істотныя прыбыткі, дык другі амаль цалкам іх паглынаў. З дня трагічнай смерці Маскалевіча мінула тры гады, але звярніце ўвагу: абсталяванне ў лабараторыі і цяпер не састарэла. Скажу вам больш: увесь гэты час яно працуе ў аўтаматычным рэжыме. Кампутары паводле праграмы, закладзенай тры гады таму, кіруюць усімі прыборамі, увасабляючы ў жыццё геніяльную задуму Івана Маскалевіча. Увага! — працягваў Андрэй Навінскі. — Я раскрываю ўсе свае карты: маё імя зусім не Андрэй Навінскі! У мяне наогул няма імя. Ужо хоць бы таму, што толькі чалавеку дадзена мець уласнае імя, а жывёлам — мянушкі. У мяне ж нават мянушкі няма... Я, — дакладна вымаўляючы кожнае слова, сказаў Андрэй Навінскі, — наяўнае ўвасабленне ідэі Івана Маскалевіча! І да канца майго рэпартажу засталося менш за дзве гадзіны!

Чорны абапёрся рукой на лабараторны стол. Яго трэсла, хоць розум адмаўляў яму паверыць у тое, што адбывалася.

— Доказы, дзе доказы? — крыкнуў ён Навінскаму.

— Будуць і доказы! — спакойна адказаў той, адчыніў невялікі сейф і дастаў з яго канверт.

— Гэта — зварот Івана Маскалевіча да людзей усяго свету, — урачыста абвясціў Навінскі і наблізіў аркуш да аб'ектыву, дэманструючы ўласнаручны подпіс нябожчыка. — Зараз я і азнаёмлю ўвесь свет са зместам звароту...

«Застаючыся ў поўным розуме, хачу заявіць, што з гэтага дня пачала адлік новая эпоха зямной істоты, якую я назваў Андрэй Навінскі. Гэта — першае ў свеце стварэнне, якое знешне нагадвае чалавека, а па інтэлектуальных магчымасцях значна пераўзыходзіць яго. З дапамогай электроннай тэхнікі я перадаў Навінскаму ўвесь свой мазгавы патэнцыял, узбагаціўшы яго мноствам самай рознай інфармацыі, неабходнай для такога стварэння. Атрымалася мая копія, толькі што з куды большымі магчымасцямі. Пасля выпрабавання мадэлі я зразумеў, што пражыў жыццё не дарма і магу спакойна памерці. І неўзабаве зраблю гэта добраахвотна. Андрэй Навінскі — гэта буду я сам. Я памру, але буду жыць у іншым увасабленні, ва ўпэўненасці, што за такімі, як Навінскі, — будучыня, прагрэс усяго чалавецтва. Няхай жыве чалавек! Іван Маскалевіч».

Чорны выхапіў з рук Навінскага паперу і на ўласныя вочы пераканаўся: ягоны подпіс, Маскалевіча!

— Дык ты сапраўды не чалавек, а кавалак... — закрычаў ён, усё яшчэ не верачы. — Хто ты?!

Тэлеапаратар паказаў буйным планам узмакрэлы твар Чорнага.

— Выдатнае пытанне! Сапраўды, стары Маскалевіч не ўлічыў такой дробязі, што я — не зусім чалавек, — адказаў Навінскі. — Тут ён памыліўся, калі даў мне значна большую свабоду выбіраць самастойныя рашэнні, удасканальваць распрацаваную ім ідэю. Глядзіце!

Андрэй Навінскі пайшоў углыб лабараторыі да празрыстых трунаў.

— Няхай гэта ўбачыць увесь свет! — ужо амаль крычаў Навінскі. — Ідэя Івана Маскалевіча падарыла бессмяротнасць розуму. Таму я вырашыў з цягам часу замяніць усіх людзей ініцыятыўных, энергічных, якія смяротныя, на такія стварэнні, як я. На месца вучоных, палітыкаў, паэтаў, спартоўцаў прыйдуць іх копіі. Тыя, хто атрымаюць на гэта маю згоду, на карысць каго выкажуцца тэсты, яшчэ пры жыцці змогуць заказаць свой вечны дублікат. Усе іншыя будуць складаць рэзервовы фонд чалавецтва, якім я буду карыстацца па меры патрэбы. Гэта сапраўдная рэвалюцыя: вечныя прыгажуні і бізнэсмэны, несмяротныя артысты і рэпарцёры, якія не ведаюць стомы!

Ад пачутага Чорнаму зрабілася млосна. Ён пацягнуўся да вакна, каб глытнуць хоць крыху чыстага паветра.

— Тыя, каго выберу я, Андрэй Навінскі, — працягваў крычаць той проста ў тэлекамеру, — завалодаюць усім светам. Чалавецтва чакае сапраўдная дэмакратыя, парадак на прынцыпова новым узроўні. Бо з гэтага часу зямным шарам будуць кіраваць стварэнні, якія няздольныя памыляцца!

«Ратуйцеся, людзі!» — хацеў крыкнуць Чорны, але зрабіць гэтага ўжо не мог. Камяк стаяў у ягоным горле.

— А каб вы маглі пераканацца, што мае словы — не пустая балбатня, я пакажу вам іх, людзей новай эры!

І Андрэй Навінскі нахіліўся да трунаў, уключыў нейкую кнопку. Вечкі павольна ўзняліся. Навінскі падштурхнуў тэлеапаратара бліжэй, каб той змог выразна паказаць тры нерухомыя постаці.

Міжволі і Чорны наблізіўся да Навінскага ды выцягнуў напружаную шыю.

— У першай камеры знаходзіцца мой уласны дублікат, якога я ахрысціў, прабачце, Андрэй Навінскі-другі. Ён пачне дзейнічаць дакладна праз гадзіну пасля таго, як перастану існаваць я. А такая сітуацыя практычна выключана. Новыя людзі будуць жыць вечна! У другой камеры вы бачыце дублікат вядомага вам рэпарцёра з «Народнага кур'ера» Міколы Асташэвіча. Мне ён спадабаўся ўжо хоць бы таму, што быў адным з лепшых сяброў майго «бацькі» Івана Маскалевіча. Менавіта таму Іван зрабіў ягоную копію другой пасля маёй. На жаль, Мікола Асташэвіч не здолее ўжо пабачыць заканчэнне майго рэпартажу. І таму — увага! — ён уваскрэсне на вашых вачах роўна праз гадзіну!

Навінскі апусціў на труне нейкі рычаг. Пачулася ціхае гудзенне.

— Гэта пачалася зарадка акамулятараў, — растлумачыў ён і перайшоў да трэцяй труны. — А тут ляжыць дублікат спрактыкаванага майстра пяра Алеся Чорнага, трэцяга пасля мяне і Асташэвіча героя майго рэпартажу. Чорны яшчэ жывы, і таму ўваскрашаць ягоную копію пакуль няма патрэбы. Улічваючы дзелавыя і арганізатарскія здольнасці Алеся Чорнага, я прызначаю яго на пасаду міністра інфармацыі і зносін новага сусветнага ўраду, які, зразумела, узначалю я, Андрэй Навінскі. І да заканчэння майго рэпартажу засталося сорак хвілін!

— Я адмаўляюся! — крыкнуў Чорны.

— Куды ж ты дзенешся, стары? — спакойна адказаў Навінскі.

— Я катэгарычна супраць! Людзі, нам усім пагражае небяспека!

Навінскі гучна зарагатаў.

— Не ты сам, дык ён! — Навінскі паказаў на труну. — Але ты будзеш маім міністрам. Будзеш! Бо я хачу гэтага! Дарэчы, ці помніш ты, Алесь, апошнія словы Івана Маскалевіча, сказаныя ім у час вашай апошняй гутаркі?

Чорны цяжка разамкнуў высахлыя вусны.

— Ну, давай, Навінскі, — прамармытаў ён, — давай сюды сякеру!..

Усміхаючыся, Навінскі прынёс сякеру з доўгім тронкам.

— Глядзіце ўсе, як абраныя мною людзі трымаюць дадзенае імі слова. Спадар Чорны ахвяруе правай рукой, каб даказаць мне сваю прыхільнасць і заняць у маім кабінеце пасаду першага міністра!

Ураз пашарэлы Чорны закатаў рукавы белай кашулі і паклаў правую руку на стол, адсунуўшы дробны хімічны посуд. Але ягоная левая рука была ўжо няздольная добра ўтрымаць сякеру.

Чорны зірнуў на Навінскага.

— А можна... можна замест правай рукі — левую?

— Я дазваляю, — Навінскі стаяў насупраць, выпрастаўшыся.

І тады Алесь Чорны аберуч нанёс яму ўдар сякерай проста ў грудзі. Навінскі, змятаючы са стала апаратуру, з немым стогнам асунуўся на падлогу. Падскочыўшы да яго, Чорны яшчэ некалькі разоў наводмаш ударыў таго, хто ўсяго хвіліναю раней самазадаволена ўсміхаўся на ўвесь свет.

Цела Андрэя Навінскага скурчылася, з прабітых грудзей выпрасталіся пасмачкі дыму. Тэлеапаратар кінуўся да выйсця, але яго спыніў гучны голас Чорнага:

— Стаяць! Паказвай усяму свету, што тут адбываецца. Я, Алесь Чорны з газеты «Народны кур'ер», маю скончыць гэты рэпартаж. Раз і назаўсёды. Да ягонага заканчэння засталося пяць хвілін!

І тут ён пачуў, як у бліжэйшай да яго труне спрацавала рэле, загулоараднае прыстасаванне.

Чорны нанёс па дублікату Навінскага ўдар страшэннай сілы. З труны вырваўся сноп іскраў.

Чорны нахіліўся над другой трунoй і адключыў яе ад сеткі.

— Прабач, дружа Мікола, забіваць цябе напаўжывым я не магу, — прамармытаў ён і высока ўзняў сякеру. — Шкада, што мы больш не пабачымся.

Заставалася трэцяя труна. Чорны павольна наблізіўся да яе і першым жа ладным ударам адсек у свайго дубліката правую руку. Потым ён вярнуўся на вуліцу да машыны і сцадзіў бензін з бака ў вядро. Тэлеапаратар хадзіў за ім як цень. Чорны вярнуўся ў лабараторыю, разліў бензін па падлозе. Рэшту з вядра выліў на сябе. Потым прысеў на край стала, набіў нарэшце старую пяньковую піпку.

Тэлеапаратар, стоячы каля дзвярэй, навёў на яго камеру.

— Ну вось, самі бачыце: рэпартаж скончыўся, — стомлена сказаў Алесь Чорны. — Добрай вам ночы, людзі. Спіце спакойна. І жывіце так, як лічыце патрэбным...

Пстрыкнула запальнічка...

*1991—2005*

# Дом з літар

## З кнігі «Зямля над белай ракой»



Фота zelwa.by



Андрэй СЦЕПАНЮК

### суседзі

суседзі прыйшлі пасля
паглядзелі на заспетае
памаўчалі і напісалі пратакол
у якім прасілі памілавання

мы не ведалі чаго ён патрабуе
мы не чулі яго крыкаў і плачу
занятыя мы сваімі справамі
і праблемамі свайго жыцця

на канцы стаяў той
які быў вінаваты
схаваны за плячыма іншых
нічога не гаварыў
стараўся быць невідавочным

найбліжэйшы сусед сказаў
што ўсё гэта віна прыезджых
і што гэта яны знішчылі спакой
а потым пайшлі невядома куды

усе вырашылі падтрымаць
найбліжэйшага
парвалі карткі з подпісамі
кінулі іх у вогнішча
якое распалілі каб было цяплей

суседзі не заўважылі як з цела
якое вісела на пятлі высокай яблыні
вылятае душа ў сініх колерах
і напраўляецца на захад

іх не цікавіла ўжо адбытае
закрычалі яны на многа галасоў
дык трэба будзе выпратаць панадворак
і накарміць жывёлу каб не здохла

яны ўжо забылі і спантанна
выбралі трох
якіх паслалі з петыцыяй да ўлады
каб тая не будавала ім дарогу
па якой прыйдуць новыя
невядомыя

душа ляцела штораз вышэй
з часам заіскрылася белым лебедзем
які назаўсёды адплываў з месца
якое яшчэ хвіліну раней было яму
бацькаўшчынай

### дом з літар

пабудую табе дом
з літар алфавіта нашай мовы
выкіну ўсе ётавыя
каб не пагражалі канструкцыі
а ў падмурку выкарыстаю
толькі мяккія і шыпячыя

вокны будуць у форме «о»
а дзверы вялікага «Н»
у купальні будзеш плаваць
пасярод мяккіх знакаў
а на кухню заходзіць
разам са знакамі прыпынку

толькі не ведаю
як апісаць дзіцячы пакой
у якім будзеш чакаць
новага жыцця

не магу дабраць
здавальняючай якасці
і знайсці на яе запіс
адпаведных сродкаў

лезуць у галаву геаметрычныя фігуры
значэння якіх не разумею
і не магу прачытаць
не застаецца нічога другога
як стварыць новую мову
ў якой з'явіцца подых ветру на шчацэ
і сляза ў вуснах

зразумееш яе толькі ты
і тваё аксамітнае цела

я застануся ў пярэднім пакоі
збудаваным з пытальнікаў

### пратэст

падчас дэманстрацыі
ў вядома невядомай справе
можа аборту або іншага незразумення
паліцыянт у цывільным
схапіў жанчыну маладую
але не падлетка
і брутальна цягнуў яе
ў закратаваны паліцэйскі самаход

ніхто не глядзеў у яе твар
усе з нездаровым зацікаўленнем
глядзелі на яе цела
вабнае і румянае ад холаду
дык была палова снежня
мінус пятнаццаць а нават больш
а яна была голая

ніхто не глядзеў у яе вочы
і не бачыў усмешкі
і белай стужкі бліскучых зубоў
важным было што яе смочкі
выстралілі ад холаду
а жаноцкасць не магла
схавацца за невялікім
узгоркам валасоў

крык ашалелага натоўпу
заліваў паветра
і незразумелымі былі словы
якія плылі з вуснаў
замярзаючай жанчыны

толькі потым у паліцэйскіх пратаколах
можна было прачытаць яе словы
«я Маці Божая народжаная
дваццаць гадоў
перад паўстаннем нашага свету
у Іерусаліме або Сепфорыс
як гаворыць вікіпедыя
жонка Іосіфа
маці Ісуса назаратчаніна
што загінуў на гары
распятым за ўсё і за ўсіх
цяпер змагаюся за правы
зняволеных думкай
і за тых якія не разумеюць»

адміністрацыйны пратакол
не гаворыць нічога
аб паводзінах затрыманай
і нічога аб выглядзе
яе вачэй і ўсмешцы
якая прамільгнула па яе вуснах
толькі сухое
«затрыманая і перададзеная
да псіхіятрычнага назірання»

на снезе ў месцы
дзе адбывалася дэманстрацыя
нехта знайшоў торбачку
дакументы гаварылі
што яе ўладальніца Марыя
з замазаным прозвішчам
месцам пражывання народжаная
ў невядомым годзе
і невядомых месцы
на здымку з рознакаляровымі валасамі
хаця здымак быў чорна-бела

### рыцар

рыцару нельга маўчаць
рыцар бачыць як з гары
на панадворак
з'язджаюцца брудныя
і п'яныя ворагі

рыцар бярэ ў рукі меч
і адсякае двум першым вушы
разам з носам і барадою
кроў льецца па іх каленях
рыцар свістам свайго мяча
ломіць наступныя косці
і кідае іх у пачырванелы пясок

рыцар чакае калі заўважыць
яго князёўна
кіне сваю белую хустачку
а льняным ручніком
сатрэ пот з яго ілба

чаму ты такі дурны
гаворыць раптам князёўна
ты пабіў усіх адважных
якія ехалі вызваліць мяне
з бацькавага палону

рыцару дваццаць гадоў
сем месяцаў і тры дні
не верыць ён у словы князёўны
бярэ ў рукі яе шыю і заціскае
сваімі сталёвымі пальцамі

вочы князёўны становяцца захадам
аранжавага сонца
глядзяць і не бачаць рыцаравай
усмешкі
схаванай на дарозе з усходу на захад

рыцар сядае на каня
і запісваецца на картках
пажоўклай гісторыі
героем сваіх часоў

рыцар стане каралём
калі на поўначы будзе ноч
а поўдзень прыблізіцца да ранку

### вайна

ранкам абудзіўся ў свеце
дзе няма ніякіх правоў
кожны робіць што захоча,
а па вуліцах бегаюць
гурты падлеткаў з аўтаматамі
ў руках

пытаю прахожых як называецца сон
з якога хачу хутка прачнуцца
яны адварочваюць галовы ў другі бок
і спешнымі крокамі
уцякаюць з месца
ў якім хтосьці задаў пытанне

яшчэ ўчора ніхто не верыў
што гэта здарыцца
дык не можа так быць —
гаварылі старыя
досвед нашага пакалення
таго не дапусціць
малодшыя ківалі галовамі
і былі згодныя з рацыяй старых

усе прыкідваліся што не бачаць
як за сцяной
у прыжмураных вачах суседзяў
нараджаецца зло
як з'явілася ў іх нянавісць і прага
пахмяліцца салодкім пітвом
якое ў пасохлых вуснах
ператвараецца ў гарачую кроў

а нам хацелася жыць у свеце
ў якім няма буры і дажджу
дзе можна кахаць, цешыцца
і верыць у заўтрашні дзень
можа таму сёння так цяжка
хавацца за дзвярыма
і бачыць што гэты сон за акном
ёсць ява

### чырвоныя тралейбусы

пасярод жоўтых вуліц
нябесных гарадоў
блукаюць чырвоныя тралейбусы
іх пасажыры глядзяць у векавечныя
шыбы
і стараюцца запомніць дарогу назад

час ад часу на шэрым прыпынку
затрымаецца цень
у якім кожны ўбачыць самога сябе

чырвоныя тралейбусы няспешна
накіроўваюцца далей

### хлеб

акраец табе, акраец мне
а рэшткі пакінем тым
хто прыйдзе пасля нас

няхай ядуць на згоду
і апамятанне галоваў
ды рук хвалу вялікую

без масла і скварак
выпечаны з пшанічнай мукі
ў печы выпаленай стагоддзямі

ешце за праўду і будучыню
так як дзяды і бацькі елі
са стала зробленага
з дрэваў сасновых

а калі прыйдзе дзень платы
з крошак зрабіце белы пірог
і благаславіце яго на дарогу тым
якія церпяць

***

хто скіне з цябе цяжар гэты
накіданы на плечы штодзённыя
на рукі свабодныя і ногі калючыя

горла часу засмокча яго як пясок
і тонкай кішкай жывата пацягне
ўнутро
каб заўтра стаўся неадчувальны

распішаш яго на маленькія дэталі
разрэжаш на іскры пякучыя
возьмеш у губы каб смак яго
пасмактаць

будзеш маліцца словам забытым
каб не бачылі вочы яго і не чулі вусны
а збудзецца так як быць мае

### сэнс жыцця

ніхто раней не сказаў нават таго
што прыйдзецца жыць у свеце
у якім не будзе месц сэнсу і значэння
само трываючае жыццё

навошта, калі заўтра
на вуліцы сярод зялёных дрэў
злавесная ракета затрымаецца
і ўпадзе побач майго цела

рукі ў бок адзін паляцяць
ногі затрымаюцца ў тым жа месцы
а галава разам з тулавам
стане вялікім пытальнікам

нават душа не паспее, не ў змозе
схавацца за дрыжыкамі плячэй
анёла-ахоўніка ў белай сукенцы
з памазанымі балотам сандалямі

і буду сам у сваім нявер'і
усе іншыя пойдуць дарогай надзеі
застануцца ў ёй да апошняй хвіліны
калі шалёны салдат націсне кнопку

толькі свіст у вушах іх разбудзіць
і бліскавіца ў пахмурны дзень
але схавацца не будзе ўжо дзе і калі
а можа проста ніхто ім не скажа

# Валерый Шкаруба

## Словы пра пейзажыста

Адам ГЛОБУС

### Паштоўкі

Неяк я ляцеў з Масквы ў адным «Боінгу» з пейзажыстам Валерам Шкарубам. Ён вяртаўся з персанальнай выставы, што прайшла ў Японіі. Шкаруба распавёў мне пра асаблівасці японскага галерэйнага бізнесу. Галерэйшчыкі сабралі мастацкі савет, на якім ацанілі творчасць жывапісца. Мастацтвазнаўцы вырашылі: кавалак карціны Шкарубы памерам са звычайную паштоўку каштуе сто долараў, адпаведна, кавалак у дзве паштоўкі — дзвесце. Шкаруба ўзрадаваўся і намерыўся прапанаваць карціны вялікіх фарматаў, але японцы абмежавалі яго памерам да васьмі паштовак. Яны патлумачылі гэтае патрабаванне невялікай плошчай японскіх кватэр.

Выстава прайшла даволі паспяхова, прадалося сем палотнаў, і галерэйшчыкі паабяцалі сабраць праз паўгода новы мастацкі савет, каб зрабіць спробу падняць рэйтынг Шкарубы са ста да ста дваццаці долараў за карціну памерам з паштоўку.

### Хлопчык з жарэбчыкам

Сустракаю на праспекце Незалежнасці пейзажыста-натурыста Шкарубу. «Ты чаго без капелюша?» — пытаюся ў яго, бо некалькі разоў запар сустракаў Валеру ў чорным шыракапольым капелюшы. «Цёпла… Учора Савіцкага хавалі, і таксама цёпла было. Пра яго можна вялікую кнігу напісаць». — «Пра што пісаць? Мы ж з табой ведаем, што Савіцкі ўсё даўжэзнае жыццё правыконваў дзяржаўныя замовы. Адны замовы. Замовы — і ніякіх іншых думак». — «Так і трэба напісаць пра мастака, які ахвяраваў жыццё дзяржаве. Дарэчы! Савіцкі неяк распавядаў пра жарэбчыка… Не мне, але я перакажу сутнасць яго слоў… Здарылася тое ў вёсцы, калі Савіцкі быў яшчэ маленькім хлопчыкам. Ён бегаў па лузе разам з маленечкім жарэбчыкам. Той быў зусім-зусім маладзенькі. Хлопчык і жарэбчык набегаліся да стомы. Жарэбчык лёг адпачыць пад стог на залацістую салому. Хлопчык лёг побач з ім. Яны ляжалі спіна да спіны. Яны так ляжалі і глядзелі на неба. Вечарэла. Бралася на холад. Але хлопчыку было цёпла побач з жарэбчыкам; і каню было цёпла побач з хлопчыкам… Больш нічога цёплага ў жыцці і не было. Савіцкі так і сказаў, што, акрамя таго дня, нічога добрага ў жыцці не бачыў. Калі яго спыталі, чаму ён не напісаў светлую, залатую карціну з хлопчыкам і жарэбчыкам, Савіцкі на пытанне адказаў пытаннем: «Каму яно трэба — маё асабістае?».

Я развітаўся з Валерам і задумаўся над гісторыяй хлопчыка з жарэбчыкам. На першы погляд яна вельмі кранальная. Па малюнку гэта выдатны мультыплікацыйны і коміксавы сюжэт.



Валерый Шкруба на выставе

Нешта ў ім ёсць антычнае, нешта кентаўраставральнае, нават манументальнасць ёсць, і разам з гэтым гісторыя ненатуральная, нежывая, запазычаная. Хто і як яе сканструяваў, невядома, але да мяне яна прыйшла ўспамінам пра мастака-нябожчыка.

### Драматург Дудараў

Аднойчы ў тлумным бары Дома літаратара да мяне падышоў драматург Аляксей Дудараў: «Ты ж вучыўся на мастака?» — «Вучыўся і вывучыўся…» — «Патрэбна твая кансультацыя наконт карціны…». Мы падняліся на другі паверх, дзе ў прасторным і высакастолевым фае была размешчана невялічкая выстава краявідаў. Дудараў спыніўся каля карціны Шкарубы, на якой была напісана размытая летнімі дажджамі дарога: у каляінах стаяла вада, у якой адбівалася цяжкае шэрае неба.

«Думаю купіць гэтую карціну… Што скажаш?» — Дудараў зазірнуў мне ў вочы. «Купляйце…» — «Ты б купіў такую карціну сабе?» — «Не!» — «Чаму?» — «Нашто мне купляць чужую карціну, калі ў мяне ёсць свае? Каб мне захацелася мець падобную карціну, я ўзяў бы ды напісаў такую. Ну і мяне цікавяць людзі. Бязлюдныя краявіды мяне напружваюць…» Дудараў вытрымаў тэатральную паўзу і сказаў: «Людзей мне хапае. Людзі ўвесь час сварацца. На гэтым і будую п'есы, на сварбе. У нейкі момант сваркі так мне надакучваюць, што хочацца цішыні, спакою і, як ты кажаш, бязлюддзя…». — «Тады купляйце краявід Шкарубы». — «Ён перспектыўны мастак?» — «Перспектыўны, не сумнявайцеся». — «Колькі яму прапанаваць за гэтую дарогу?» — «Папытайцеся ў яго, а потым дайце на пяцьдзясят рублёў больш — ён будзе страшэнна задаволены. Вы ж ведаеце, маладому мастаку кожны рубель за шчасце».

### Рамы

Карціна лепш прадаецца, калі яна акантавана вытанчанай і дарагой рамай. Валера Шкаруба ахвяраваў на выбар рамы для сваіх карцін шмат часу. Ён так і казаў: «Раму трэба падбіраць доўга. Прыкладаць адзін профіль, другі, трэці… Адпачываць, а потым зноўку прыкладаць і прыкладаць, ажно да стомы. Ты стомішся так, што захочацца ўсё кінуць, сысці, але нельга ні кідаць гэтую справу, ні сыходзіць. У нейкі момант, калі ты будзеш блізкі да адчаю, убачыш, як рама падыдзе да карціны. Убачыш, што толькі такая рама і мусіць аздабляць твой краявід. Раз — і яно! Ты адчуеш радасць ад знаходкі».

Сам я стараюся абмяжоўвацца сціплай металічнай акантоўкай, пакідаючы выбар рамы таму, хто карціну купіць. У Валеры Шкарубы абрамленне карцін заўсёды ўваходзіла ў творчы працэс.

### Паэт Стральцоў

У Валеры Шкарубы выйшаў альбом з рэпрадукцыямі яго жывапісных прац. Тым альбомам мастак вельмі ганарыўся, і ён меў для гэтага падставы: кніга атрымалася прыстойнай якасці, была звярстана з густам і праўдзіва адлюстроўвала творчасць сучаснага беларускага пейзажыста. Частку накладу (і не малую!) Валера забраў у майстэрню, каб раздорваць сябрам і патрэбным людзям.

Сустрэўшы мяне неяк на праспекце, Шкаруба пахваліўся альбомам і запрасіў на гарбату ў майстэрню, дзе збіраўся ўручыць кнігу з аўтографам. У той дзень я спяшаўся на планёрку ў сваё выдавецтва. Пахол па альбом адклаўся. Потым Валера перабраўся з вежы на Незалежнасці ў вежу на Сурганава. Мы з ім бачыліся гады ў рады на нейкіх прыёмах і выставах. Часам Валера нагадваў мне пра альбом, які чакаў мяне ў яго майстэрні. Карацей, адклад не пайшоў у лад. Застаўся я без альбома з жывапісам Шкарубы.

Але ў мяне ёсць суцяшэнне. Выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла зборнік выбраных вершаў Міхася Стральцова «Я зноўку тут», ілюстраваны краявідамі Валеры. Гэтае выданне Стральцова атрымалася надзіва ўдалым, і я паспеў напісаць пра кнігавыдавецкую ўдачу.

Дваццаць дзявятага верасня 2017 года Валера павіншаваў мяне: «З народзінамі!». Я адгукнуўся: «Дзякуй, Валера! Кніга «100 вершаў Стральцова» з тваімі карцінамі атрымалася выдатнай…».

Такім чынам… Я не самотны, я кнігу маю…

### Партфель

Валера Шкаруба звычайна хадзіў з вялікім партфелем. У часы заплечнікаў і экалагічных торбачак ягоны скураны партфель выглядаў падкрэслена кансерватыўна. Усе вакол з заплечнікамі, пакетамі, торбамі, чамаданамі на колцах, а Валера з важкім партфелем. Міжволі ўзнікалі пытанні пра змесціва таго партфеля. Мне пашанцавала: я некалькі разоў быў сведкам яго напаўнення.

Доўгі час Валера працаваў у майстэрні, якая мясцілася ў жоўтай вежы з круглымі вокнамі. У той самай, што ў Мінску на рагу Камсамольскай і Незалежнасці. Валера любіў, каб у майстэрні заўсёды было што выпіць і было чым закусіць. Па прадукты ён і хадзіў у «Цэнтральны» ўніверсам. Там мы з ім і абмяркоўвалі сыры і каўбасы. Раіліся, якімі лепей закусваць каньяк, а з якіх лепш нарабіць канапак да гарбаты. Таму я некалькі разоў бачыў, як у вялікі партфель Валера складаў кавалкі сыру, колцы кілбасы, бутэлькі з каньяком. Чамусьці запомнілася, як мы ўзялі кожны па колцу «Кракаўскай» і паабяцалі адзін аднаму з'есці яе за здароўе: ён — за маё, а я — за ягонае…

### Каранавірус

Атрымаў ад Валеры Шкарубы замест віншавання з днём нараджэння паведамленне: «29. 09. 2020, 09:20. Каб каранавірус міма прайшоў». Мой адказ: «Дзякуй… Няхай ён і цябе і тваіх блізкіх абміне!».

Хвароба не абмінула Валеру, яна яго забіла 19. 11. 2020.

### Пэндзлі

Пейзажыст Шкаруба купляў пэндзлі пукамі. Браў не адзін-два, а дзесяць-пятнаццаць. «Нашто так многа браць?» — папытаўся я аднойчы ў Валеры. «Бяру не толькі сабе, дзецям таксама пэндзлі купляю». — «Добра, калі дзеці малююць, і добра, калі бацька прыносіць ім пэндзлі…» — «Так, прыношу я не толькі пэндзлі, яшчэ фарбы і палотны. Ведаеш, і на гэта я не шкадую грошай… На што іншае магу і пашкадаваць, а на пэндзлі — зусім не шкада».



Валерый Шкруба. «Жуpавы праляцелі», 1991 г.

Даўняя сустрэча з пейзажыстам успомнілася, калі фэйсбук нагадаў мне пра дзень народзінаў Валеры Шкарубы. Пра першы дзень яго народзінаў, які адзначаўся ўжо без яго…

### Бясчассе

Па-д'ябальску геніяльны Мікалай Гогаль заўважыў няроўны рух часу і апісаў яго. У «Нататках вар'ята» можна прачытаць: «Год 2000 красавіка 43 дзень», «Сакапада 86 дзень. Паміж раніцай і ноччу», «Ніякі дзень. Дзень быў без нумара», «Дзень не помню. Месяца таксама не было. Было чорт ведае што такое», «Дзень 1», «Мадрыд. Лютуарый трыццаты»… Чытаеш, перачытваеш, ратуешся смехам ад страху. Жудасна, што час прападзе, згорнецца, сцішыцца — і надыдзе бясчассе. Ты будзеш казаць, а выказацца не зможаш, будзеш бегчы, а з месца не зрушышся, будзеш спадзявацца на светлае заўтра і ўсхваляць залатое ўчора, але навокал цябе будзе стаяць адно нуднае і нерухомае сягоння — без дня, без месяца і нават без года.

Такое бясчассе я адчуў аднойчы ў самалёце, калі пейзажыст Валера Шкаруба паказваў мне фотаздымкі, зробленыя ім у Японіі. Валера хадзіў на эцюды з фотаапаратам. Здымаў краявіды, з якіх збіраўся пісаць карціны. У Японіі Шкаруба пазнаходзіў куткі з балотам і кустоўем, якія зусім не адрозніваліся ад гэткіх жа беларускіх куткоў. Каб Валера не сказаў, што здымкі былі зроблены ў Японіі, я б не здагадаўся пра гэта. Сярод фатаграфій кустоў на балоце трапляліся здымкі з пастаццю Валеры на фоне японскіх хмарачосаў. «Як ты змог у Японіі знайсці свае балота з кустамі?» — папытаўся я ў Шкарубы. «Сам не ведаю… Выйшаў з гатэля, пайшоў, пайшоў і бачу — маё. Паздымаў і вярнуўся».

Разглядаючы фотаэцюды, зробленыя Валерам у Японіі, я адзначыў для сябе, што на іх нельга пазнаць не толькі месца і краіну, але і час. На здымках не было часу. Так і ў карцінах Валеры Шкарубы час спынены, можна нават сказаць, што там бясчассе, там вечнасць…



Валерый Шкруба. «На рэчцы», 2014 г.

# Лявон САВЁНАК: не свой сярод чужанінавых

Аляксандар АКУЛІЧ

## Ад настаўніка да «нацдэма»

Лявон Савёнак (псеўданімы Лявон Крывічанін, Леанід Свэн) нарадзіўся 26 чэрвеня 1897 года ў вёсцы Вялец на Глыбоччыне ў сям'і Вікенція і Вольгі Савёнкаў. Праз год памёр бацька, і маці з дзвюма старэйшымі дочкамі і Лёнікам пераехалі ў Глыбокае. Праз дзесяць гадоў была вучоба ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі і «штудыі» ў Пецярбургскім кадэцкім корпусе, а таксама — настаўніцкая праца на Радзіме.

У 1922 годзе з групай глыбоцкіх педагогаў Лявон Савёнак прыехаў у Мінск, дзе пазнаёміўся з Апалоніяй Радкевіч. Пасля вяселля напрыканцы 1922-га нарадзіўся сын Лёдзік, праз пяць гадоў — дачка Зора (у будучым замужжы — Кіпель).

Шмат з напісанага Лявонам Савёнкам было надрукавана яшчэ напрыканцы 1920-х у газеце «Савецкая Беларусь», у рэдакцыю якой Лявона Савёнка запрасіў на працу Усевалад Ігнатоўскі. Як карэспандэнт «Савецкай Беларусі» (якую на той час рэдагаваў «аднакашнік» Міхась Чарот) Лявон Савёнак аб'ехаў амаль усю рэспубліку. «З калёс» пачаў дасылаць у газету свае першыя творы — і друкаваць іх пад псеўданімам Леанід Свэн.

У чэрвені 1929 года на паседжанні бюро ЦК КП(б)Б прагучалі абвінавачванні газеты «Савецкая Беларусь» у «нацыянальна-дэмакратычных» скажэннях. Крыху пазней газету назвалі «ўтульным прыстанішчам беларусіх нацыяналістаў».

Лявона Савёнка — як «нацдэма» — звольнілі з працы. З лютага 1929 года ён зарабляў на пражыццё на будоўлі, працаваў на заводзе «Ударнік», а з 1931 года — стыльрэдактарам навукова-тэхнічнага выдавецтва.

У лістападзе 1933 года падчас разгромнага працэсу па т. зв. «Справе Беларускага Нацыянальнага Цэнтра» Савёнак быў арыштаваны. Прысуд — тыповы: зняволенне ў лагерах. Пяць гадоў пісьменнік правёў у лагерах Алтайскага краю. У 1939-м тэрмін пакарання скончыўся. Пісьменнік вярнуўся на Радзіму і пачаў настаўнічаць у ваколіцах Мінска (у самім горадзе жыць яму забаранялася).

Падчас акупацыі Мінска Лявон Савёнак быў інтэрнаваны і некалькі тыдняў праседзеў у нямецкім лагеры на Камароўцы. Затым, калі даведаліся пра тое, што іхні вязень арыштоўваўся пры Саветах, пісьменніка вызвалілі...

Лявон Савёнак з сям'ёй выехаў у Нямеччыну, дзе стаў дырэктарам беларускай гімназіі. Прымаў удзел у працы Рады БНР, у выданні газеты «Бацькаўшчына» і часопіса «Сакавік», дбаў пра арганізацыю Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы. У 1950 годзе перабраўся ў ЗША. Сябраваў з многімі беларускімі эміграцкімі сем'ямі, але жыў апошнія гады адзінотна — на невялікай «курынай» ферме.

Пакінуў турботны свет 21 лютага 1974 года.

## Дарогамі фельетонаў: пра «рэвізіі» на Случчыне, «лашадзіны язык» і прагрэсіўных амерыканцаў

Ягоны дэбют — фельетон «З Новым годам!» («Савецкая Беларусь», 1 студзеня 1927 г.). Ён складаецца з чатырох абразкоў, у якіх дасціпна апісваецца сустрэча Новага


Лявон Савёнак. 1940-я гг.

года рознымі людзьмі: і тымі, у каго на сталe «між дробных "красного" і "столового" горда высіліся, як буслы паміж вераб'ёў, "четыре звездочки" і "Абрау Дзюрсо", — і беспрытульнымі бадзягамі, у каго толькі агарак свечкі ды заместа коўдраў — газеты, на якіх «вялікім аншлагам стаяла: "Усе на барацьбу з беспрытульнасцю"». І ўжо зусім неяк па-сучаснаму — іранічна і горка — прачытваецца абразок пра тое, як бухгалтар пасля прыняцця «першака» пад Новы год пабіўся з «гаспадаром халупы на акраіне» і прачнуўся ў незнаёмым месцы, дзе яго «вітаў» са святам малады міліцыянер...

Праз дзесяць дзён у той жа «Савецкай Беларусі» — за перадавіцамі «Х з'езд КП(б) Беларусі» і «Аб беларускім нацыяналізме» — быў надрукаваны і другі фельетон Лявона Савёнка «Карчы на дарозе». Кампазіцыйна-структурнай адметнасцю і гэтага фельетона стаў падзел на паасобныя зніталваня агульнай задумай і ідэяй падраздзелы-абразкі. У першым — «Рэвізор» — сатырык крытыкуе старшыню рэўкамісіі Грэскага спажывецкага таварыства, чалавека слабога, «не раўнуючы як крэсла пад загадчыкам салідная установы», які паехаў «рабіць рэвізію» ў Вынісцах (вёска на Случчыне), ды, напіўшыся «на дурніцу», спакойна вярнуўся назад. У падраздзеле «Ініцыятыва» аўтар сатырычна абураны працай «ляднецкіх аграномаў», якія пускалі на вецер народныя грошы, — называе такіх ліхвяроў «карчамі», што перашкаджаюць ісці па дарозе ў лепшае жыццё. Анекдатычная сітуацыя вымалявана аўтарам у падраздзеле «Сложение перстов»: поп з дзякам не памірыліся за калядныя ахвяраванні, пасля чаго поп склаў данос-скаргу — аб тым, як дзяк паказаў яму дулю: «Дело о сложении перстов с воткнутием между ними одного, с присовокуплением: на-ко, выкуси».

Блізкія па тэматыцы, па «іранічна-анекдачычнай» стылістыцы і фельетоны Лявона Савёнка «Рассуждения о белорусизации (З запісной кнігі «спеца»)» і «Освободители» («Савецкая Беларусь», 1927, 25 лютага; 27 сакавіка). У ім смела выкрываюцца «освободители»-абрусіцелі, чальцы «великого дела вызволения Полоцкой Руси». «Прадстаўнік акруговага цэнтру» Шпак едзе на сход у глыбінку — каб вырашыць нарэшце, «што такое беларуская мова, адкуль яна пайшла, з каго?». На жаль, ягоная начальніцкае «адкрыццё»-прамова ва ўсе часы ў Беларусі была і застаецца тыповай. «Беларусы. Вы думаеце, якога яны роду, адкуль яны пайшлі, ад Авеля? Не, мыляецеся. Я, прадстаўнік з цэнтру, гавару вам: беларусы конскага роду <...> і язык у іх лашадзіны». «Усёведа» Шпака сяляне закідалі агрызкамі, а потым прынялі за хворага.



Апалонія і Лявон Савёнак з унукамі Юркам і Алесяй. 1960-я гг.

## Уколы «Чароўнай іголкі»

З памежжа гумарэскі і апавядання — «Чароўная іголка» Лявона Савёнка (першапублікацыя — «Савецкая Беларусь», 22 траўня 1927 г.). Тут шмат кідкіх каларытных дэталяў, героі дасканала «ўпсіхалагічаны», дыялогі пададзены дынамічна, кантрастна. Гісторыя, выпісаная творы, — і анекдатычная, і, разам з тым, сімвалічная. Аўтар высмейвае «бязглуздых» членаў сельсавета і жыхароў вёскі Гнойнае, якія разабралі Адаму Бабічу комін, бо, як нібыта сказала варажэя, у яго была ўваткнута чароўная іголка, праз што перасудзіць селяніна сельсавет не мог. У «раёне» ж «разабраліся», і супакоіліся вясковыя кабеты, да якіх ужо дайшоў почут, што «гэта ўсім будуць амерыканскія электрапечы ставіць». «А як жа паранку худобе варыць?» — баяліся-непакоіліся. Амерыканцы ж на гэтых электраплітах ужо «кавы розныя варылі», як пераконваў адзін з герояў.

Надзённа чытаецца сёння і «апавяданне маладога паэта, які падае надзеі» «Як я арганізаваўся» («Савецкая Беларусь», 16 кастрычніка 1927 г.). Адзін «паэта» пераказаў свайму знаёмаму гісторыю свайго «ўваходу» ў літаратуру. Аднойчы на сходзе склаў пратакол вершам:

*На сходзе прысутнічала 34.*
*Ня ўсе слухалі, а ўсе пастанавілі:*
*Балдуіну і Чэмберлену пад зад каленам —*
*Мы рыхтуем чырвоную змену.*

Старшыня сходу т. Красназвонны параіў «паэту»-навеяўленцу працягваць пісаць — маўляў, «цяпер усе так робяць».

Апавяданне ўспрымаецца і парадыйным, і гратэскавым. У ім ёсць і сатырычныя эскізы дзейнасці «бурапенных» гора-паэтаў і псеўдакрытыкаў, і «мёртвых» выдавецтваў, і «ліпавых» літзгуртаванняў — творцы якога, як прызнаваліся самі, «за мастацтва гатовы адсеч малы палец на левай назе», якіх «хлебам не кармі, а дай мастацтва».

Сатырычны разгляд выдадзеных правілаў палявання падштурхнуў Лявона Савёнка да напісання фельетона-рэцэнзіі «Таварышы наркамземаўцы, дазвольце падыскусаваць» («Савецкая Беларусь», 28 кастрычніка 1927 г.). Вось узор напоўненых дасціпнымі «шпількамі» тэрміналагічных пярэчанняў аўтара: «<...> што датычыць «дабывання звераў і птушак начыннямі», дык тут даруйце — не згодзен. Чым, напрыклад, дрэнны спосаб, калі, скажам, дзядзька пойдзе ў лес са сталярным начыннем, зловіць зайца ды гэблем яго па хвасце? Які тут праступак проці рэспублікі?».

«Кампанія самакрытыкі — адна буза» — робіць на той час смелую выснову аўтар у фельетоне «Як жа, урэшце, самакрытыкавацца»...

Заканчэнне на стар. 11 »

# Лявон САВЁНАК: не свой сярод чужанінавых

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 10

Тэксты Лявона Савёнка вызначаюцца выразнай грамадзянскасцю, непрымірымасцю з антыбеларускімі шавіністамі. Нацыянальна-адраджэнская ідэя — у аснове, бадай, кожнага і літаратурнага, і публіцыстычнага твора пісьменніка. Адным з першых ён напісаў пра неабходнасць аднаўлення ранейшых назваў вуліцаў беларускіх гарадоў, не мог змірыцца з тым, што ў старажытным Полацку не стала вуліцы Скарыны, пра што і выказаўся ў артыкуле-рэпартажы «На Полаччыне». Там жа рэпарцёр-сатырык закранаў і праблемы беларускага друку — на прыкладзе газеты «Чырвоная Полаччына». Нарыс «Новае племя пад старымі ліпамі» нагадвае ўадначас і лірычны рэпартаж з камуны імя Леніна Дрысенскага раёна — пра «вольную калектыўную працу». Нарыс запамінаецца маляўнічымі апісаннямі вясковых пейзажаў і ўзнёслымі лірычнымі адступленнямі. Пра меліярацыю на той жа Полачынне Лявон Савёнак напісаў нарыс «За новую зямлю». Гісторыя сваркі агранамавай жонкі з загадчыкам старадарожскага калгаса стала сюжэтнай асновай фельетона «Гісторыя свежай цыбуліны»…

У прамежку 1927 і 1928 гадоў Лявон Савёнак пісаў і друкаваўся актыўна. Яго лепшыя сатырычныя і гумарыстычныя творы і склалі зборнік фельетонаў «Чароўная іголка», які выйшаў у свет у 1929 годзе ў «Беларускім дзяржаўным выдавецтве».

На зборнік адгукнуўся рэцэнзіяй Барыс Мікуліч («Савецкая Беларусь», 4 жніўня 1929 г.): «Дзівішся, колькі багата ў жыцці анекдотаў! <…> Заслугоўвае ўвагі раздзел «Беларусізацыя пад №…», дзе пытанні беларусізацыі разглядаюцца з боку шмат якіх «культурных» людзей». Барыс Мікуліч слушна адзначаў, што фельетоны Лявона Савёнка-Свэна больш блізкія да апавяданняў, але «тым не менш войстрасць, актуальнасць пытанняў выклікаюць зацікаўленасць чытача». Адзначыў Барыс Мікуліч і вострую іронію твораў сатырыка, і «некаторыя ўніканні» — да прыкладу, «рыторыку, <…> непатрэбную ў фельетоне», а таксама не заўсёды ўдалыя канцоўкі. Засяродзіўся і на патрэбе далейшай распрацоўкі гумарыстычных жанраў. «Варта было б аднаму з нашых выдавецтваў, — пісаў ён, — паклапаціцца аб выданні анталогіі «Беларускі фельетон». Гэта дасць магчымасць развіваць форму фельетона, асаблівага летапісу нашых дзён».

## Краіна Чужанінавых

…У 1947 годзе ў часопісе «Сакавік» быў надрукаваны пачатак «Дзённіка Ів. Ів. Чужанінава» Лявона Крывічаніна — такім псеўданімам пачаў падпісвацца Лявон Савёнак на эміграцыі.

«Дзённік Чужанінава» — своеасаблівая стылізацыя пад «мемуарнасць», аповесць, падзеі ў якой развіваюцца амаль на працягу года — першага года акупацыі Беларусі нямецкімі войскамі. Аповесць — як вялікая сюжэтная мазаіка, абрамленая агульнай задумай, ідэяй, агульнымі героямі.

У кожнай карціне-запісе «Дзённіка Чужанінава» малююцца розныя падзеі, большасцю — гратэскавыя, камічна-парадыйныя, нават анекдатычныя, як, да прыкладу, падзеі 23 сакавіка: «Загржэмбіцкі вярнуўся з экспедыцыі ў «Западную». <…> апавядае цуды: як там людзі жывуць, як п'юць і гуляюць <…>. Адно дрэнна, што там


Лявон Савёнак. 1970-я гг.

усе лютыя нацыяналістыя. Навет і гарэлку, і тую п'юць не як усе людзі, шклянкамі, а па-свойму, па-нацыяналістычнаму. Выставіць, — кажа, — на стол тры чаркі: адну — белай, другую — чырвонай, а трэцюю зноў белай, ды хвошча ўсе запар, а пасьля выгуквае «Хай жыве!». А іншыя, мабыць, ужо зусім шавіністыя, дык тыя выстаўляюць аж па дзевяць чарак: тры белай, тры чырвонай, зноў тры белай. І «Хай жыве!» выгукваюць тры разы. Гэта ўсіх нашых вельмі зьдзівіла. Толькі Яську Разаку такі звычай надта спадабаўся…».

Але пасля прачытання большасці запісаў не становіцца смешна: паміж датай і радкоў — пульсуе вайна. Па-над камічнымі эпізодамі — трагедыя. Пад флёрам вадзвільнасці схаваны праблемы экзістэнцыйна-філасофскай глыбіні.

«Дзённікавую» форму, якая з часам стала характэрнай у ягонай прозе, Лявон Савёнак упершыню паспрабаваў увасобіць у «Восеньскіх настроях. З дзённіка «любителей покушать», — сімпатычным узоры «малой сатыры». «Восеньскія настрої…» беззаганна зроблены і ў сюжэтным, і ў моўным плане. Дэталёва і псіхалагічна ўвасоблены вобраз абывацеля-«любителя» — за перыяд дзесігоддзя (ад 1917 да 1926-га) савецкай улады. На кожны год прыпадае па некалькі сказаў «унутранага маналога» неназванага героя, і ў іх — часта афарыстычных і камічных — выяўлена жыццёвая і часавая «эсэнцыя»: «1921… Разам з камісарам ем зацірку, гавару аб сусьветнай рэвалюцыі, і ўсё роўна есці хочацца… Не, так далей нічога ня будзе. Займаю восем пасадаў, трэба яшчэ пару дастаць»; «1922. <…> нясу на рынак мяшок грошы, куплю хлеба, а можа й на фунт сала хопіць».

Неардынарны і мастацкі метад «Дзённіка Чужанінава» — «метад ад адваротнага». Твор падаецца ад імя адмоўнага героя, «звычайнага сярэдняга чалавека ваеннага часу, які ратуе сваё жыццё ад зьнішчальнае сілы вайны й карыстае для гэтага з кажнае сітуацыі» (як сцвярджаў Лявон Крывічанін у містыфікацыйнай рэдакцыйнай заўвазе да публікацыі «Дзённіка…»), чалавека, які можа без ваганняў пераступіць праз усе законы — і грамадскія, і маральныя.

Гэта ці не адзіны мастацкі твор у нашай літаратуры пра нямецкую акупацыю, «напісаны» ад імя «поўнага чужаніцы», без схільнасці-заангажаванасці да беларускіх «незалежнікаў» (гэтыя людзі вымаляваны гратэскава і сатырычна) і без лісліваці-заляцанняў да немцаў (супраць іх таксама ёсць шмат выкрывальных запісаў).

«Дзённік…», як і іншыя сатырычныя творы Л. Савёнка, стракацяць афарызмамі і прымаўкамі, і гэта — сталая стылістычная дамінанта ягонай прозы: «Калі шчасьце, дык і з мяшка вылезеш», «Калі чалавеку шанцуе, то і ў лапцёх танцуе», «Калі не пашанцуе, дык і на печы катар схопіш», «І жыць цяжка, і памерці нялёгка», «Жонка не балалайка — пайграўшы, на сьценку не павесіш» і інш.

## Пра беларускіх Бэндэраў, або Школа «сатырычнага рэалізму»

Лявон Савёнак (як, дарэчы, і Андрэй Мрый) сваімі тэкстамі засведчыў, што напрыканцы 1920-х гадоў паспяхова «закончыў» мастацкую «школу» «сатырычнага рэалізму», найбольш яркімі «выпускнікамі» якой лічацца Ільля Ільф і Яўгеній Пятроў. Гэтую літаратурную «школу», у праграмных традыцыях якой былі гульня, містыфікацыя, пародыя, анекдатычнасць, прайшлі многія рускія празаікі, паэты і эсэісты: Багрыцкі, Катаеў, Алеша, Бабель. Іх «школу» называлі паўднёварускай ці, «з падачы» Валянціна Катаева, леванційскай. Сувязі яе з прадстаўнікамі беларускай літаратуры, з беларускай рэчаіснасцю — не толькі «тэарэтычныя». Сённяшнія архіўныя росшукі (Ільы Куркова і іншых) дазваляюць упэўнена сцвярджаць, што факталагічнай асновай «Двенадцати стульев» сталі найперш «беларускія» падзеі. Большасць спецыялістаў-літаратуразнаўцаў пагаджаюцца, што імя і знешнасць Астапа Бэндэра «запазычана» ў адэсіта Восіпа (Астапа) Шоры, супрацоўніка крымінальнага росшуку і частага госця студыі «Калектыў паэтаў», дзе з ім і пазнаёміліся будучыя аўтары «Двенадцати стульев». Але падвойнікамі Бэндэра былі і іншыя «камбінатары», адзін з якіх «гастраліраваў» па Беларусі, выдаючы сябе за старшыню ЦВК Узбекскай ССР Файзулу Хаджаева, якога нібыта абрабавалі па дарозе з Крыма ў Маскву. У прыёмнай Аляксандра Чарвякова ён паказаў даведку за подпісам старшыні ЦВК Крымскай рэспублікі т. Ібрагімава (не выпадкова, пэўна, і імя па бацьку Бэндэра — Ібрагімавіч). Дакументальна засведчана, што ў Мінску госцю пазычылі 500 рублёў. «Пагарэў» жа ўсходні камбінатар у Гомелі. Першай пра яго «дзейнасць» паведаміла 9 жніўня 1925 года ў сваім рэпартажы «Аферыст у ролі старшыні ЦВК» «Палеская праўда», затым былі і іншыя публікацыі — нават у цэнтральнай «Правде» 1 кастрычніка 1925 года. «От Минска до Берингова пролива <…> входят в исполкомы, высаживаются на станционные платформы и озабоченно катят на извозчиках родственники великих людей. <…> Дел у них много», — пішуць аўтары «Залатога цяляці». А на канферэнцыі «сыноў лейтэнанта Шмідта» ў маскоўскім тракціры ля Сухаравай вежы, на якой вырашылі «разбіць» увесь Саюз Рэспублік на «эксплуатацыйныя участкі», «при слове "Бобруйск" собрание болезненно застонало. Все соглашались ехать в Бобруйск хоть сейчас. Бобруйск считался прекрасным, высококультурным местом»…

Бэндэрамі «раённых» маштабаў былі і Іван Чужанінаў Лявона Савёнка, і Самсон Самасуй Андрэя Мрыя. А найбольш каларытным і відочным папярэднікам Астапа Бэндэра трэба лічыць Вільяма Джэпкінга з надрукаванага яшчэ ў 1924 годзе апавядання Андрэя Мрыя «Прафесар акультных навук» — «першакамбінатара», які са сваёй «сакратаркай» прыехаў у павятовы горад К. — нібыта па «плане» «Залатога цяляці»: высадзіўся на станцыйнай платформе, заклапочана прыкаціў на фурманцы і зайшоў у выканкам, дзе атрымаў у сакратара выканкама і «ўкома» (які кіраваў павятовай культасветнай прапагандай) дазволы на «культпрацу» і пачаў праводзіць «сеансы» тэлепатыі, магіі, гіпнозу і спірытызму, збіраючы з гараджан вялікія сумы грошай. Нібыта і не «сын Лейтэнанта Шмідта», а брат «прафесара» Джэпкінга (які прыехаў з «трушчоб Індыі», а насамрэч «грамадзяніна Чартапханску»), Астап Бэндэр з падобным імпэтам пачне збіраць грошы з сяброў «Саюза мяча і арала» і «зацюканых» жыхароў Вялікіх Васюкоў…

Ну а што з сатырай (і «сатырычным рэалізмам») у тыя савецкія часы было на Бацькаўшчыне пісьменніка Лявона Савёнка?

«Ад нуды і злосці напісаў фельетон, які ніхто не надрукуе…», — скрушна прызнаваўся ў 1947 годзе (пасля вяртання з высылкі) у сваім мастацкім дзённіку «Аповесць для сябе» аўтар колішняй, згаданай вышэй, рэцэнзіі на зборнік гумарэсак і фельетонаў Лявона Савёнка празаік Барыс Мікуліч.

На жаль…


Сем'і Кіпеляў і Савёнкаў. Сядзяць (злева направа) Апалонія Савёнак, Зора Кіпель, Марыя Кіпель; стаяць (злева направа) Лявон Савёнак, Юрка, Вітаўт, Алеся і Яўхім Кіпелі

## Пяршынства ў ЗША аўтарак бэстсэлераў

Паводле паведамлення «Publishers Weekly», у 2023 годзе аўтарамі бэстсэлераў у ЗША былі пераважна жанчыны.

Кнігі Колін Гувэр па-ранейшаму лідзіруюць у спісе самых прадаваных кніг: «Гэта пачынаецца з нас» (2022) перасягнула «Гэта заканчваецца з намі» (2016) і стала самай прадаванай кнігай года накладам крыху больш за 685 000 асобнікаў. Трэці раман Гувэр «Праўдзівасць» разышоўся накладам больш за 935 000 асобнікаў. Тры кнігі былі прададзеныя ў кнігарнях і ў Інтэрнэце агульным накладам каля 3,4 мільёна асобнікаў.

Двума вялікімі хітамі года сталі «Чацвёртае крыло» і «Жалезнае полымя» Рэбекі Ярас, якія разышліся накладам каля 1,2 мільёна і 1 мільёна асобнікаў адпаведна.

Трэцяя аўтарка, чыя кніга стала бэстсэлерам, — Боні Хармус. Яе кніга «Урокі хіміі» разышлася больш чым мільённым накладам.

Агулам, жанчыны напісалі 17 з 25 кніг са спісу бэстсэлераў ЗША.

Сярод найпапулярных кніг 2023 года было шмат мемуараў.

Напрыклад, «кніг» прынца Гары і спявачкі Брытні Спірс прададзена каля мільёна асобнікаў кожнай.

## Прэмія Саюза пісьменнікаў Летувы

33-ю прэмію Саюза пісьменнікаў Летувы за 2023 год атрымаў паэт, перакладчык, эсэіст Томас Венцлава за апошнюю кнігу вершаў «Už Onos ir Bernardinų (За Онай і Бернардынамі)».



Томас Венцлава

Фота Pauliaus Pelecko

Кніга выйшла ў выдавецтве «Апостраф», а ўсяго ў зборніку надрукаваныя тры дзясяткі вершаў, напісаных за апошнія сем гадоў.

Штогадовая прэмія Саюза пісьменнікаў Летувы прысуджаецца за каштоўны твор, апублікаваны за апошнія два гады. Сярод лаўрэатаў прэміі былі Антанас А. Ёнынас, Юргіс Кунчынас, Ніёле Міляўскайтэ, Рамуальдас Гранаўскас, Сігітас Геда, Юдзіта Вайчунайтэ, Данутэ Калінаўскайтэ, Андрус Якучунас, Айдас Марчэнас, Карнэліюс Плацеліс, Ванда Юкнайтэ і іншыя.

Сёлета ў журы працавалі папярэднія лаўрэаты прэміі: Гінтарас Граяўскас, Рымантас Кміта, Міндаўгас Квяткаўскас, Міндаўгас Настаравічус і Ундзінэ Радзевічутэ.

Акрамя Томаса Венцлавы разглядаліся яшчэ тры кандыдатуры: Аквіліны Цычэнайтэ (раман «Англійская лексіка»), Рымвідаса Станкявічуса (кніга вершаў) і Юргі Тумасонітэ (раман з апавяданняў «Нованароджаныя»).

Камісія аднагалосна вырашыла абвясціць сёлетнім лаўрэатам Томаса Венцлаву. Узнагарода была ўручана 6 студзеня, у Дзень Трох Каралёў, у Вільні.

## Кіеўскі Стус-фэст

Мерыпрыемствы фестываля, прысвечанага вядомаму паэту і грамадскаму дзеячу Васілю Стусу, былі запланаваны на ўвесь студзень 2024 года. Ініцыятарам правядзення Усеўкраінскага і міжнароднага фестываля выступілі Тэатральная суполка DSP і Паэтычны тэатр Украіны пад кіраўніцтвам Аляксея Баравенскага.



Кіеўскі Стус-фэст мае на мэце паказаць постаць Васыля Стуса як адну з ключавых асобаў ва ўсведамленні украінскай нацыі.

## «Абрыкосы Данбаса» ў агучцы Катрын Дэнёў

Аўдыёкнігу вершаў, перакладзеных на французскую мову, «Абрыкосы Данбаса» ўкраінскай пісьменніцы Любові Якімчук, якую агучыла актрыса Катрын Дэнёў, ужо можна набыць у кнігарнях, а таксама на аўдыёпляцоўках Францыі.

«Катрын Дэнёў агучыла "Абрыкосы Данбаса", і наша з ёй аўдыёкніга цяпер даступная ў французскіх кнігарнях, а таксама на ўсіх французскіх аўдыёпляцоўках, — паведаміла ў Facebook Любоў Якімчук. — Там вы пачуеце і мой голас, бо я агучыла назвы і яшчэ пяць-шэсць вершаў для кнігі па-ўкраінску».

Летась у выдавецтве «Les éditions des femmes» выйшла папяровая кніга «Les Abricots du Donbas» у перакладзе Ірыны Дзмітрышын і Агаты Бонін.

Любоў Якімчук нарадзілася 19 лістапада 1985 года ў горадзе Першамайск Луганскай вобласці. У 2003—2008 гадах належала да Луганскай літаратурнай суполкі «СТАН». Аўтарка кніг паэзіі «як МОДА» (2009), «Абрыкосы Данбаса» (2015). Суаўтарка музычна-паэтычнага альбома «Данбаскія абрыкосы». Паэзія Любові Якімчук перакладзена больш чым на дзясятак моў свету.

Як паведаміў «Укрінфарм», французская кінаактрыса Катрын Дэнёў падчас цырымоніі адкрыцця 76-га Канскага кінафестывалю прачытала верш Лэсі Украінкі «Надзея».

## Сад Андэрсана ў Даніі

У Одэнсе, на радзіме дацкага пісьменніка і знакамітага казачніка Ганса Хрысціяна Андэрсана, створаны сад яго імя.

Праект архітэктурнага бюро MASU Planning выйграў асобную прэмію, якая засяроджваецца на ўшанаванні ландшафтных архітэктурных работ «з характарам». Комплекс музея складаецца з некалькіх драўляных будынкаў цыліндрычнай формы. Аўтары праекта і музей імкнуліся адаптаваць будынкі да наваколля: сад знаходзіцца пасярод старых вясковых дамоў і новай гарадской забудовы. Жывыя загародкі паўтараюць формы будынкаў і ствараюць лабірынт, які сімвалізуе ідэю падарожжа па казачных творах. Сцежкі з гранітнай пліткі паўтараюць стыль, характэрны для суседніх гістарычных кварталаў. У садзе размясцілі дзве водныя «стыхіі»: балота з драўляным мастком і басейн без выразных межаў. У садзе пастараліся ўзнавіць атмасферу твораў Андэрсана: фантазіі і летуценнасці.

## «Першы фаліянт» Шэкспіра

Першы збор п'ес Уільяма Шэкспіра, выдадзены ў 1623 годзе, упершыню будзе даступны для шырокай публікі. Бібліятэка Шэкспіра (Folger Shakespeare Library) у Вашынгтоне рыхтуе пастаянную экспазіцыю, дзе будуць прадстаўлены 82 асобнікі «Першага фаліянта».

Выданне гэтага збору п'ес Уільяма Шэкспіра ажыццявілі акцёры Джон Хэмінг і Генры Кондэль, якія ўзначальвалі тэатр «Глобус» ды ігралі ў п'есах знакамітага пісьменніка пры яго жыцці. Праца над выданнем доўжылася год, — трэба было не толькі выкупіць правы на п'есы ў розных выдавецтваў, але і разабрацца, якія п'есы сапраўдныя, а якія зменены ў «пірацкіх» выданнях. Хэмінг і Кондэль аднавілі многія дэталі па памяці. Акрамя таго, першае поўнае выданне п'ес Шэкспіра ўключала васямнаццаць раней не публікаваных твораў.

Выданне атрымала назву «Камедыі, хронікі і трагедыі містэра Уільяма Шэкспіра. Надрукавана з дакладных і сапраўдных тэкстаў» і было апублікавана ў 1623 годзе, праз сем гадоў пасля смерці аўтара. Пазней зборнік пачалі называць «Першы фаліянт».

Экспанаты будучай выставы з'явіліся ў Вашынгтоне ў канцы XIX стагоддзя, калі нафтавы магнат Генры Клей Фолгэр і яго жонка Эмілі Джордан Фолгэр вырашылі сабраць выданні «Першага фаліянта». У 1932 годзе яны адкрылі «Бібліятэку Уільяма Шэкспіра на Капіталійскім узгорку», недалёка ад Капітолія, Бібліятэкі Кангрэса і Вярхоўнага суда ЗША. Туды прыязджалі кангрэсмэны, каб удакладніць цытаты з твораў аўтара, якія яны планавалі выкарыстоўваць у сваіх палітычных выступах.

У бібліятэцы ёсць свой тэатр, чытальныя залы, тут праводзяцца розныя мерапрыемствы і канферэнцыі шэкспіразнаўцаў. Аднак «Першы фаліянт» ляжаў у сховішчах і не быў даступны для шырокай публікі.

Выстаўка адкрыецца ў чэрвені 2024 года ў новым будынку бібліятэкі. Акрамя «Першага фаліянта», наведвальнікам экспазіцыі будуць прадстаўлены шматлікія экспанаты, звязаныя з тэатральнымі пастаноўкамі п'ес Шэкспіра.

## Невядомы Карэл Чапек

У доме, дзе калісьці жыў сусветнавядомы пісьменнік Карэл Чапек, супрацоўнікі Пражскага гістарычнага музея знайшлі запісныя сшыткі і малюнкі, якія належалі пісьменніку, а таксама паштоўкі, якія дасылаў з канцлагера яго брат Ёзэф.

У будынку быў знойдзены ўмантаваны ў заднюю сцяну адзежнай шафы сейф, дзе і захоўваліся раней невядомыя творы. Сшыткі з запісамі Чапек вёў у гады вучобы ў Карлавым універсітэце, а дарожныя эскізы зрабіў, верагодна, у часе паездак у Іспанію і Англію.

Даследчыкам было вядома, што нярэдка Чапек суправаджаў апавяданні і аповесці ўласнаручна створанымі ілюстрацыямі; па словах Вольгі Шайнпфлюгавай, жонкі пісьменніка, часта ён спачатку маляваў, а затым прыдумляў тэкст да малюнка.

Паштоўкі брат Карэла Чапека Ёзэф, вядомы мастак, адпраўляў Вользе з нацысцкіх канцлагераў у 1939—1945 гадах. На іх быў толькі адрас — так Ёзэф паведамляў пра сваё існаванне.

Карэл Чапек памёр у Чэхаславакіі ў 1938 годзе. Краіна тады была ўжо часткова акупаваная нацыстамі. Дом, у якім Чапекі жылі ў Празе, Карэл і Ёзэф пабудавалі ў 1924 годзе. Там пачаліся рэстаўрацыйныя работы, калі гарадскія ўлады выкупілі палову дома ў спадчыннікаў Ёзэфа Чапека, каб адкрыць музей жыцця і творчасці братоў Чапекаў.

## Раман Оруэла ў Расіі кралі найчасцей

Знакаміты раман Джорджа Оруэла «1984» атрымаў званне самай «крадзенай» кнігі ў расійскай сетцы кнігарняў «Читай-Город» у 2023 годзе, аб чым паведаміў незалежны расійскі канал «The Moscow Times».

З паліц кнігарняў у 2023 годзе было скрадзена 460 асобнікаў рамана-антыўтопіі.

Гэтая кніга таксама ўвайшла ў топ-10 самых прадаваных кніг.

У гісторыі сусветнай літаратуры гэты раман стаў адным з самых вядомых твораў, якія крытыкуюць таталітарызм. Каб захаваць кантроль над насельніцтвам, урад выкарыстоўвае сачэнне, выведку, прапаганду і такія парадаксальныя лозунгі, як «Вайна — гэта мір; свабода — гэта рабства; невуцтва — гэта сіла».

Рост продажаў рамана Джорджа Оруэла «1984» у Расіі прыкметны з 2010 года, асабліва — пасля лютага 2022-га. Нягледзячы на тое, што раман быў у вольным доступе, у сакавіку 2022 года два чалавекі, якія бясплатна распаўсюджвалі кнігу ў Маскве, былі затрыманыя і абвінавачаныя ў дыскрэдытацыі расійскіх вайскоўцаў.

## Нейрасеткавая літаратура перамагае?..

Напісанае нейрасеткай за тры гадзіны апавяданне на аснове чарнавіка з 43 000 знакаў перамагло на літаратурным конкурсе ў Кітаі.

Апавяданне «Краіна ўспамінаў» на кітайскай мове аб'ёмам амаль 6 000 знакаў, «напісанае» Шэнь Янам, прафесарам універсітэцкай школы журналістыкі і камунікацый, стала адным з пераможцаў маладзёжнага конкурсу навукова-папулярнай фантастыкі ў Цзянсу — але аказалася, што яно было напісана з дапамогай штучнага інтэлекту. Аб тым паведаміла «3Dnews».

Сюжэт атрымаўся такім: на краі метасусвету знаходзіцца Краіна ўспамінаў — забароненае царства, куды людзям уваход забаронены. Яно населена ілюзіямі, створанымі гуманоіднымі робатамі, якія страцілі памяць. Любы парушальнік — чалавек ці штучная істота — пазбавіцца памяці і назаўсёды застанецца ў тым месцы. Галоўная гераіня — даследчыца метасусвету, якая ў рэальным свеце працавала нейраінжынерам. Выпадкова страціўшы ўсе ўспаміны аб сваёй сям'і падчас эксперыменту, яна зацікавілася легендай аб Краіне ўспамінаў і спадзяецца, што там ёй удасца вярнуць памяць...

На цырымоніі ўзнагароджання апавяданне Шэнь Яна атрымала другое месца разам з 17-цю іншымі апавяданнямі, — атрымала палову галасоў членаў журы. Толькі аднаму з членаў журы паведамілі, што Шэнь карыстаўся дапамогай штучнага інтэлекту, а яшчэ адзін член журы, які вывучаў пытанне стварэння кантэнту з выкарыстаннем нейрасетак, сам здагадаўся аб тым; ён сказаў, што не стаў галасаваць за такую працу, бо яна не адпавядала стандартам і ён «бракавала яркіх эмоцый».

«Пасля таго, як мы падрыхтавалі дзясяткі падказак, нейрасетка згенеравала ўвесь кантэнт — пачынаючы ад імя аўтара, назвы і тэксту і заканчваючы ілюстрацыямі. Яе папрасілі напісаць у літаратурным стылі Кафкі, — распавёў пазней Шэнь. — Упершыню ў гісторыі літаратуры напісанае штучным інтэлектам апавяданне атрымала літаратурную ўзнагароду».

Дырэктар кітайскага выдавецтва «Народная літаратура» Фу Ручу таксама паведаміў, што было нялёгка распазнаць, што твор Шэня быў створаны штучным інтэлектам — але пры гэтым адзначыў, што «пачуццё і рытм мовы ў гэтым апавяданні вельмі слабыя».

А нядаўна расійская аўтарка кніг па самаразвіцці Святлана Каменскіх прызналася, што і яе кнігі напісаны нейрасеткай. Напісанне адной кнігі займала «каля дзвюх з паловай гадзін з улікам рэдактуры». Яшчэ шэсць гадзін ідзе на стварэнне вокладкі і публікацыю. «На працягу аднаго дня можна з нуля напісаць сваю кнігу, і ўжо ўвечары яна з'явіцца ў інтэрнэт-крамах», — сцвярджае Каменскіх. Такім чынам «пісьменніца» ўжо стварыла і апублікавала 15 «кніг».